ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 33 (2331) 19 жніўня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 10 рублёў.

*Вацлаў ЛАСТОЎСКІ*
*І БЕЛАРУСКАЯ ЭМІГРАЦЫЯ Ў ЗША*

## "ДАЎНО НЕ МЕЛІ З АМЭРЫКІ ЛІСТОЎ..."

У шэрагу мерапрыемстваў, прымеркаваных да Першага з'езда беларусаў свету, адной з яркіх падзей лічу выхад кнігі Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША" (аб прэзентацыі знакамітага выдання ў канферэнцзале Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь "Голас Радзімы" разгорнута паведаміў сваім чытачам у N 28, 15.VII).

З аўтарам кнігі лёс звёў мяне трохі раней, на Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Рым-IV", наладжанай у апошнія чэрвеньскія дні ў Гародні. Пагартаў манаграфію тады — абавязкова "памучыў" бы доктара Кіпеля не адным прафесійным запытаннем. Ды саму кнігу прыдбаў пазней у "Кнігарні пісьменніка", дзе ў вольным продажы яна ляжыць, хіба, і цяпер (і набыў, са слоў знаёмых, выгадна, у 2—4 разы танней за "з'ездаўскую" цану, бо на з'ездзе беларусаў свету яна "ішла" за 600—1 000 рублёў).

Для мяне манаграфія сталася каштоўным набыткам найперш старонкамі, прысвечанымі Вацлаву Ластоўскаму, і тымі раздзеламі, дзе аналізуецца ўзнікненне беларускіх нацыянальных арганізацый у ЗША. Рост апошніх асабліва актывізаваўся пасля шэрагу ўзаемазлучаных падзей: Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі ў 1917 годзе, абвяшчэння БНР у 1918-м ды стварэння БССР у 1919-м.

Акрамя аб'ектыўных, глабальных прычын, станоўчым фактарам аўтар называе і суб'ектыўную: змену стаўлення беларускіх палітычных лідэраў Еўропы да амерыканскіх суродзічаў, наогул да праблемы эміграцыі: "Найбольш радыкальна зьмяніў свае пагляды на беларусаў у Амэрыцы Вацлаў Ластоўскі, які напачатку варожа ставіўся да ідэі эміграцыі, як відаць зь яго шматлікіх публікацый зь перадваеннага й ваеннага часу, у 1922 годзе пісаў ужо ў больш прыязным тоне. Ён разумеў важнасьць навязаньня дзейных кантактаў з беларускімі імігрантамі ў Амэрыцы, як можна меркаваць з артыкулу ў "Беларускім Сьцягу", што выходзіў у Коўне. У ім ён прапануе паставіць на парадак дня пытаньне аб пасланьні беларускае дэлегацыі ў Злучаныя Штаты Амэрыкі. Ён піша, што справа гэтая набалелая й цягнецца бяз выніку ўжо даўно. Падкрасьляючы важнасьць навязаньня кантактаў з амэрыканскімі беларусамі, як зрабілі літоўцы або ўкраінцы, ён зазначае, што гэтыя кантакты маглі б адыграць важную ролю ў адраджэньні Беларусі, асабліва ў эканамічнай галіне. Падсумоўваючы, ён кажа, што, калі б эўрапейскія беларусы здолелі ўсталяваць дзейныя кантакты з амэрыканскімі беларусамі й калі б тыя прысылалі на палітычныя нарады сваіх прадстаўнікоў, гэта было б значным дасягненьнем і зарукаю разьвіцьця добрых дачыненьняў на будучыню".

Прачытаў я гэтыя радкі да знаёмства з В. Кіпелем, абавязкова спытаў бы шаноўнага аўтара, на якой падставе артыкул "Заданьня чароднай нарады", надрукаваны ў ковенскай газеце ў 1922 годзе за подпісам І. Яцьвяг, лічыцца публікацыяй В. Ластоўскага. Наколькі ведаю, у матэрыялах Фундаментальнай картатэкі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АНБ гэты псеўданім з Властам не ідэнтыфікаваны.

І яшчэ пацікавіўся б наступным. На той самай, 105-й старонцы сваёй манаграфіі, працягваючы гаворку пра блізкае палітычнае супрацоўніцтва метраполіі з беларусамі ў дыяспары, В. Кіпель называе ў якасці прадстаўніка Міністэрства замежных спраў Рады БНР, накіраванага ў Злучаныя Штаты Амерыкі, Янку Чарапука. Факт і асоба вядомыя. Дык вось, ці не ў архівах Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва, дырэктарам якога ад 1982 года з'яўляецца доктар Кіпель і дзе захоўваецца асабовая папка Яна Чарапука, ляжаць аўтографы Вацлава Ластоўскага? Гэтыя два палітычныя дзеячы, аднаго з якіх лёс закінуў у Коўна, а другога — ажно ў Нью-Йорк і Чыкага, падтрымлівалі між сабою сталае ліставанне.

Адкуль такія звесткі?

Зімою бягучага года публікацыяй "Архіў Вацлава Ластоўскага" ("Голас Радзімы", 25 лютага г.г.) я ўжо знаёміў чытачоў штотыднёвіка з агульным зместам дакументаў часткі колішняга архіва Беларускай Народнай Рэспублікі, у прыватнасці, за перыяд дзейнасці яе прэм'ера Вацлава Ластоўскага (захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Летувы ў Вільні). Стан іх вывучэння нашымі гісторыкамі далёкі ад паўнаты.

Яшчэ ўпершыню праглядаючы дзесяткі спраў, звярнуў увагу на асобныя камплекты дакументаў пра кантакты кіраўніцтва БНР з беларускай эміграцыяй. Адна з папак так і называлася: "Совет министров (белогвардейской) белорусской "народной республики": Переписка с контрреволюционными белорусскими организациями в США по организационным и финансовым вопросам". (ЦДГА Летувы. Ф. 582).

Прапаную чытачам штотыднёвіка некалькі дакументаў як люстра дзён сувязі БНР з дыяспарай у ЗША. Публікацыя гэтых матэрыялаў у суправаджэнні паўнавартаснага каментару паўставала справай няпростай да выхаду кіпелеўскай манаграфіі. Усе мае заўвагі і тлумачэнні ўзяты адтуль.

***

Першы з прапанаваных дакументаў — афіцыйны зварот прэм'ера Ластоўскага да консула ЗША (хутчэй за ўсё, акрэдытаванага ў Коўне) дэталёвых тлумачэнняў не вымагае.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

## ПОМНІК ВЯЛІКАМУ МАСТАКУ



**Ішоў па зямлі чалавек, заходзіў у вёскі, маляваў насценныя дываны, прыгожыя краявіды, фантастычныя карціны, замкі, партрэты людзей беларускіх. І быццам раптам убачыў нешта дзіўнае ды прыгожае і спыніўся ненадоўга, каб крыху адпачыць і палюбавацца...**

**Менавіта так успрымаецца помнік беларускаму мастаку, скульптару, графіку і краязнаўцу Язэпу Драздовічу, які адкрыўся ў Траецкім прадмесці Мінска да 105-й гадавіны з дня яго нараджэння.**

**Вельмі знамянальна, што асоба мастака зацікавіла маладых: аўтар кампазіцыі — нядаўні выпускнік Акадэміі мастацтваў Ігар Голубеў, архітэктар — Вячаслаў Марухін. Відаць, сапраўды ўзнаўляецца сувязь паміж мінулым і будучыняй, аб якой на адкрыцці помніка гаварыў Васіль Быкаў.**

**Ёсць людзі, якіх неяк дзіўна бачыць застылымі і адлітымі ў бронзе, бо само іх жыццё было бясконцым вандраваннем у гістарычным часе, па прасторах роднай зямлі. Калі глядзіш на застылую постаць мастака-падарожніка, падаецца, што зробіць ён зараз крок наперад і зноў пойдзе па сваёй зямлі, каб падарыць нам сваё бачанне яе прыгажосці.**

**НА ЗДЫМКУ: помнік Язэпу ДРАЗДОВІЧУ ў Мінску.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

МЫ І СВЕТ

## ДЫПЛАМАТАЎ СТАНЕ БОЛЬШ

У Мінску прайшла нарада Надзвычайных і Паўнамоцных Паслоў і Пастаянных прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь у замежных краінах. Сярод асноўных пытанняў, якія абмяркоўваліся на семінары, — матэрыяльна-тэхнічнае і кадравае забеспячэнне дзейнасці дыпламатаў. Сёння за межамі Беларусі на дыпламатычнай рабоце знаходзяцца 60 яе грамадзян, у бліжэйшай будучыні іх колькасць плануецца павялічыць да 111. Недахоп спецыялістаў хутка ліквідуецца: 20 маладых дыпламатаў прайшлі навучанне ў замежных дыпламатычных акадэміях. Магчыма, будзе выдзелена ў асобны факультэт аддзяленне гістарычнага факультэта БДУ, на якім зараз рыхтуюць адпаведныя кадры.

НАЗНАЧЭННІ

Першым намеснікам міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь назначаны Г. Таразевіч, які раней працаваў Старшынёй Камітэта геадэзіі пры Саўміне.

Савет Міністраў унёс прапановы ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета аб назначэнні А. Сычова пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры ААН і прысваенні яму дыпламатычнага рангу Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла і аб вызваленні Г. Бураўкіна ад абавязкаў пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ААН у сувязі з пераходам на іншую работу.

У сувязі са зменамі ў структуры апарата Савета Міністраў першым намеснікам Дзяржаўнага сакратара па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы — загадчыкам аддзела нацыянальнай бяспекі Дзяржаўнага сакратарыята па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы назначаны В. Паўлаў, які раней працаваў першым намеснікам начальніка ўпраўлення грамадскай бяспекі і абароны Упраўлення Справамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Камандуючым войскамі супрацьпаветранай абароны назначаны В. Кастэнка.

ЗАЯВА БСДГ

## СУПРАЦЬ МАНАПОЛІІ РАСІІ

Выканкам БСДГ зрабіў заяву аб грашова-фінансавым становішчы ў Рэспубліцы Беларусь.

У заяве гаворыцца, што з-за кансерватыўнай гаспадарчай палітыкі ўрада эканоміка Беларусі апынулася ў складаным крызісным становішчы. Арыентацыя прамысловасці на расейскую сыравіну і расейскі рынак збыту па прычыне непрадказальнасці і неабавязковасці паводзін Расіі ў гаспадарчай сістэме краін СНД дае адзін збой за другім. Як манапаліст на рэсурсы, Расія ніколі не ўлічвала інтарэсы Рэспублікі Беларусь ды іншых краін СНД. Яскравым пацвярджэннем гэтага з'яўляецца апошняя грашовая рэформа, калі без ведама і ўсялякай інфармацыі былі выведзены з абарачэння савецкія і расейскія грошы ўзору 1961—1992 гадоў. Сотні мільярдаў грашовых знакаў быліператвораны ў смецце.

У сувязі з рэзкім пагаршэннем стану грашова-фінансавай сістэмы Рэспублікі Беларусь і пагрозай Расіі ўскладніць умовы атрымання для Беларусі наяўных грошаў новага ўзору Выканкам БСДГ прапануе на пачатку верасня склікаць нечарговую сесію ВС Рэспублікі Беларусь, дзе трэба разгледзець пытанне аб неадкладным уводзе сваёй нацыянальнай грашовай адзінкі.

Выканкам БСДГ лічыць, што без увядзення нацыянальнай валюты нельга спыніць спад вытворчасці, пераадолець інфляцыю і далейшае збяднение народа. Сваю станоўчую ролю павінны адыграць рашучая барацьба супраць даларызацыі і рублевізацыі эканомікі краіны.

МІЛАСЭРНАСЦЬ

Ужо не першы год па ініцыятыве дырэктара японскай карпарацыі "ВАКО", ураджэнца Мінска, доктара Аляксандра Кайрыса для дзіцячых клінік Рэспублікі Беларусь прыбывае гуманітарная медыцынская дапамога. Дыягнастычнае абсталяванне і лекавыя прэпараты на суму звыш 5 мільёнаў долараў атрымалі ад карпарацыі гомельская, магілёўская і мінская дзіцячыя клінічныя бальніцы.

На пастаяннай аснове арганізавана і перападрыхтоўка беларускіх урачоў у японскіх медыцынскіх установах.

НА ЗДЫМКУ: дырэктар Мінскага гарадскога анкалагічнага цэнтра прафесар Яўгеній ДЗЯМІДЧЫК (у цэнтры) з японскай дэлегацыяй таварыства АКІТА — Рэспубліка Беларусь, якая даставіла ў Мінск чарговую партыю гуманітарнай медыцынскай дапамогі.



СУПРАЦОЎНІЦТВА

## З ДАПАМОГАЙ НЯМЕЦКІХ КАЛЕГ

Гродзенскае аб'яднанне "Азот" — адзінае прадпрыемства былога Саюза, якое прыступіла да выпуску найлонблоксапалімера. Так называецца новы сінтэтычны матэрыял, вытворчасць якога і вырабы з яго асвойваюць зараз гродзенскія хімікі з дапамогай нямецкіх калег. Унікальная тэхналагічная ўстаноўка змантавана ў цэху поліамідаў, дзе працаўладкаваны спецыялісты, што засталіся па-за справай пасля закрыцця старой аміячнай вытворчасці.

Пробная прадукцыя — рыхтовачныя малаткі, якія патрэбны бляхарам. Такімі ж — лёгкімі, але вельмі трывалымі — будуць і бамперы, крылы легкавых аўтамабіляў, трактарныя кабіны, іншыя тавары, вытворчасць якіх тут збіраюцца наладзіць. Новы матэрыял атрымліваюць са свайго, гродзенскага капралактаму.

РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## ДА ЛІКУ СВЯТЫХ

Сінод Беларускага Экзархата прыняў рашэнне аб прылічэнні да ліку мясцовашанаваных святых Беларускай праваслаўнай царквы свяціцеля Георгія Каніскага, архіепіскапа Магілёўскага і Беларускага (1717—1795 гады). У Магілёве адбылася кананізацыя царкоўнага дзеяча.

Падзвіжніцкая дзейнасць Георгія Каніскага ў абарону праваслаўя прыпадае на жорсткія гады праследавання за веру. Вядомы гісторык В. Ластоўскі прыводзіць дакументы таго часу: "Касьцел каталіцкі не павінен цярпець каля сябе другіх вер. ...Пахароны з харугвямі і народам людзям другіх вер забараняюцца; яны павінны хараніць нябожчыкаў у ночы". Супраць усяго гэтага Каніскі люта змагаўся. Двойчы, у Оршы і Магілёве, яго жыццё вісела на валаску, але просты народ падымаўся ў абарону свайго настаўніка. Пасля першага падзелу Польшчы ён прысвяціў сябе ўмацаванню царквы, стаяў ля вытокаў стварэння Мінскай епархіі. Імя Каніскага стаіць адным з першых у шэрагу гісторыкаў, вучоных, педагогаў XVIII стагоддзя.

У Магілёўскім кафедральным саборы Трох свяціцеляў — Іаана Златавуста, Васіля Вялікага і Рыгора Багаслова — адбылася боская літургія, а затым хрэсны ход прайшоў да дома, дзе жыў і працаваў Георгій Каніскі — з гэтага часу святы зямлі беларускай.

ЯГАДНА-ГРЫБНЫ БІЗНЕС

## ВЕЛЬМІ ВЫГАДНА

Сур'ёзны канкурэнт у расонскіх нарыхтоўшчыкаў лясных дароў з'явіўся ў асобе мясцовага калгаса "Радзіма". Прапанаваўшы за кілаграм чарніц 650 рублёў, што на 50 працэнтаў больш, чым дае раённая нарыхтоўчая кантора, калгас прыцягнуў значную колькасць здатчыкаў. Гаспадарка знайшла і выгаднага пакупніка не толькі ягад, але і грыбоў — сумесную літоўска-германскую фірму. Вяскоўцы ахвотна здаюць зараз лісічкі, за кілаграм якіх можна атрымаць столькі ж цукру, 2 бутэлькі віна і 1 300 рублёў. А сам калгас, у якога 1 500 гектараў лесу, мае намер і надалей сур'ёзна займацца ягадна-грыбным бізнесам.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## ПА ЗАПРАШЭННЮ ДАТЧАН

Ужо другі год беларускія дзеці-дыябетыкі ездзяць адпачываць па запрашэнню сям'і фермера Дана Дзісінг-Мадсена і яго жонкі Элен у Данію, на іх уласную ферму паблізу горада Рослів. Там створаны ўсе ўмовы для таго, каб хлопчыкі і дзяўчынкі адчувалі сябе як дома. Ёсць неабходнае абсталяванне і лекі. Муж і жонка Дзісінг-Мадсен самі ездзяць па краінах, з якіх запрашаюць да сябе дзяцей, дапамагаюць афармляць неабходныя дакументы і вырашаць праблемы, звязаныя з выездам за мяжу. Днямі іх падапечнымі станучь больш за 30 непаўналетніх дзяцей з малазабяспечаных сем'яў Міншчыны, Магілёўшчыны і Гродзеншчыны. Накіроўваюцца да іх толькі тыя дзеці, што прайшлі спецыяльнае абучэнне і могуць самастойна рабіць сабе ўколы. А за іх здароўем на працягу трох тыдняў будуць наглядаць чацвёра суправаджаючых на чале з галоўным дзіцячым эндакрынолагам Клаўдзіяй Радзюк. Забеспячэнне паездкі ўзялі на сябе Дзіцячы эндакрыналагічны цэнтр і рэспубліканская няўрадавая арганізацыя "Дзіцячы дыябет".

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ



Вёска Ураджайная, бадай, адна з самых прыгожых, а магчыма, і самых багатых у Ляхавіцкім раёне. Патанаюць у зеляніне акуратныя дамы, быццам хваліцца сваёй дагледжанасцю вуліца з дзвюх двухпавярховых катэджаў. За паўкіламетра размясціліся пабудовы прамысловай зоны калгаса імя Ламаносава: жывёлагадоўчы комплекс, складскія памяшканні. Ёсць у вёсцы і свая маленькая бальніца.

А старажылы памятаюць, што яшчэ трыццаць гадоў назад сяло гэтае не толькі выглядала па-іншаму, але і было самым бедным, самым забітым у акрузе. І толькі сумленная праца людзей ды дапамога кіраўніцтва калгаса, які ўзначальвае Генрых Трацяк, зрабілі гэты населены пункт такім, які ён зараз з'яўляецца. Адзінае, пра што шкадуюць цяпер жыхары Ураджайнай, што для іх нашчадкаў не пакінулі ў якасці музейнага экспаната хаця б адну хату з тых часоў, крытую саломай, з земляной падлогай і ўбогім начыннем. Няхай бы параўноўвалі.

НА ЗДЫМКУ: на прысядзібным участку ля свайго катэджа працуе работніца мясцовай бальніцы Ірына КУЛЬБЕЙ. Муж яе Аляксандр — аператар жывёлагадоўчага комплексу.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

НОВАЯ аўтаматычная тэлефонная станцыя адкрылася ў Брэсце. За гадзіну яна можа апрацоўваць да 1 мільёна выклікаў, што для нашых рэалій з'яўляецца фантастыкай. Працуюць на станцыі ўсяго тры аператары.

У БЛІЖЭЙШЫ час колькасць беспрацоўных Гомельскай вобласці могуць папоўніць каля 6 тысяч выпускнікоў сярэдніх школ і 2,7 тысячы маладых людзей, якія скончылі прафтэхвучылішчы, тэхнікумы і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Цяпер у службе занятасці стаяць на ўліку 6 000 беспрацоўных, дзве трэція з іх — жанчыны.

У ЖЫХАРКІ Мар'інай Горкі, што на Міншчыне, Вікторыі Антонас нарадзілася тройня: два хлопчыкі і дзяўчынка. Гэта другі выпадак за сёлетні сезон у радзільным доме раёна.

ЗА ВОПЫТАМ і ведамі адправіцца хутка ў Германію група беларускіх прадпрымальнікаў. Тут яны будуць вучыцца ўваходжанню ў цывілізаваны рынак.

БРЭСЦКА-ПОЛЬСКУЮ граніцу працягваюць штурмаваць нелегальныя эмігранты. Толькі за два выхадныя дні была затрымана група з 39 афганцаў, пакістанцаў, індусаў і турак, якія спрабавалі незаконна перайсці граніцу Рэспублікі Беларусь.

СЁЛЕТА споўнілася 40 гадоў з дня смерці Міколы Равенскага. Група інтэлігенцыі з горада Чэрвеня звярнулася ў гарвыканкам з прапановай устанавіць мемарыяльную дошку на доме па вуліцы Луначарскага, дзе жыў беларускі кампазітар, аўтар музыкі гімна "Магутны Божа".

ЯШЧЭ АДЗІН КРОК У "ВЯЛІКІ СВЕТ"

# ДОБРААХВОТНІКІ МІРНАГА ЧАСУ

Не так даўно наша рэспубліка далучылася яшчэ да адной цікавай міжнароднай ініцыятывы, а дакладней — стала ўдзельніцай Праграмы добраахвотнікаў ААН. Зацверджаная ў 1971 годзе, яна накіроўвае кваліфікаваных вопытных спецыялістаў-добраахвотнікаў у тыя краіны зямнога шара, дзе можа спатрэбіцца іх дапамога. З гэтага часу Беларусь можа разлічваць на дапамогу замежных добраахвотнікаў (сярод якіх, дарэчы, ёсць спецыялісты па рабоце ў зонах экалагічнага бедства) і накіроўваць сваіх грамадзян за мяжу для ўдзелу ў праектах праграмы. Спецыялісты-добраахвотнікі, якіх набіраюць у 100 краінах свету, прымаюцца на працу па кантракту на 2 гады і накіроўваюцца ў краіну толькі па просьбе і па згодзе з яе ўрадам. Пры гэтым цікава адзначыць: добраахвотнікі пры выкананні сваіх абавязкаў не павінны выконваць інструкцыі і ўказанні якога-небудзь урада, уключаючы ўрад сваёй краіны ці іншых арганізацый, якія не маюць дачынення да ААН і адпаведнага ведамства, дзе яны атрымалі прызначэнне. Але ж наўрад ці гэты пункт пагаднення паміж Праграмай добраахвотнікаў ААН і ўрадам Рэспублікі Беларусь калі-небудзь выкліча нейкія праблемы, бо галоўнымі пры прызначэнні спецыяліста ў краіну з'яўляюцца адданасць, бескарыслівасць і прыхільнасць этыцы добраахвотніка — словам, прынцыпы самыя высакародныя.

Далёка не кожны можа прыняць удзел у гэтай праграме: вядома ж, каб некаму дапамагаць, трэба самому быць прафесіяналам. Таму кандыдаты павінны мець вышэйшую адукацыю і стаж работы па спецыяльнасці не менш чым два гады пасля заканчэння вучобы. Да таго ж беларускім добраахвотнікам давядзецца вывучаць мовы, бо без ведання англійскай, французскай ці іспанскай наўрад ці іх дапамога будзе дзейснай. Трэба сказаць, што некалькі беларускіх спецыялістаў у межах Праграмы добраахвотнікаў ААН працавалі ў краінах, што сталі на шлях развіцця, яшчэ да падпісання афіцыйнага пагаднення і вельмі добра там сябе зарэкамендавалі. Але ж, шчыра кажучы, напэўна для Беларусі галоўнай будзе не магчымасць дасылаць сваіх спецыялістаў для дапамогі іншым, а атрымліваць кваліфікаваныя парады самім. І адна з галоўных праграм пагаднення накіравана менавіта на тое, каб дапамагчы прадпрымальніцкім структурам рэспублікі. Ад Праграмы развіцця Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ужо паступіла прапанова аб прадастаўленні кваліфікаванай дапамогі з боку турэцкіх добраахвотнікаў. Сярод іх — спецыялісты па арганізацыі бізнесу і менеджменту, кансультанты па імпарту-экспарту і міжнародных адносінах. Жадаючых аказаць дапамогу шмат. Хацелася б, каб нашы адпаведныя структуры добра падумалі над тым, як лепш скарыстаць яе. Што датычыцца выдаткаў на ажыццяўленне праграмы, то фінансавацца яна будзе Праграмай развіцця ААН і іншымі міжнароднымі арганізацыямі. Беларусы ж за мяжой будуць атрымліваць грошы ад тых краін, што іх запрасілі. Адзначым адразу, што грошы гэтыя не такія ўжо і вялікія, бо на першым месцы ў гэтай справе стаіць добраахвотная бескарыслівая дапамога, а не высокія заробкі.

Каардынаваць супрацоўніцтва Беларусі з Праграмай добраахвотнікаў ААН будзе Дзяржэканомплан. З боку ўрада пагадненне падпісаў віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг, з боку ПРААН — прадстаўнік гэтай арганізацыі ў рэспубліцы Беларусь Мэцью Каханэ. Дакумент пачаў дзейнічаць з моманту яго падпісання.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

# ПАРКАВЫ КОМПЛЕКС У ЧЫРВОНЫМ БЕРАЗЕ

Споўнілася 100 гадоў з таго моманту, як у Чырвоным Беразе Жлобінскага раёна пачаў функцыяніраваць паркавы комплекс, вядомы сёння як помнік нацыянальнага дойлідства і паркавай скульптуры. Няпростым, напоўненым трагічнымі старонкамі быў гэты перыяд. У 1917 годзе комплекс быў нацыяналізаваны, праз два гады тут адкрылася сельскагаспадарчая школа, пераведзеная з Парычаў, якім пагражала польская акупацыя. У 1921 годзе школа была пераўтворана ў тэхнікум.

У гады Вялікай Айчыннай вайны тут размяшчаўся нямецкі шпіталь (сведчаннем таму з'яўляюцца брацкія пахаванні на тэрыторыі парку). З мэтай выратавання нямецкіх ваяк сюды звозілі дзяцей з навакольных вёсак для здачы крыві. Амаль усе яны (каля дзвюх тысяч чалавек) загінулі, таму што кроў з дзіцячага арганізма бралася ўся.

У нашы дні на тэрыторыі паркавага комплексу дзейнічае саўгас-тэхнікум, дзе адначасова па розных сельскагаспадарчых спецыяльнасцях займаецца больш 1 000 студэнтаў. Дзейнічае тут і вядомы ва ўсёй рэспубліцы музей (займае больш дзесяці пакояў), які ўключае ў сябе аддзел аховы прыроды, краязнаўчы куток, пастаянна дзеючую выставу мастацкай творчасці навучэнцаў, а таксама аддзел экспанатаў гісторыі самога саўгаса-тэхнікума. Вялікі ўклад у арганізацыю гэтай справы ўнеслі былыя выкладчыкі тэхнікума Рыгор Маскальцоў і Леанід Гаўрыленка.

Аб тым, што ў саўгасе-тэхнікуме думаюць аб захаванні сваёй гістарычнай памяці, сведчыць яшчэ адзін прыклад: тут плануецца правесці рэстаўрацыю старых будынкаў. Для гэтага ўрадам рэспублікі выдзяляюцца мільённыя сродкі, чакаецца прыезд польскіх спецыялістаў-рэстаўратараў.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

З НАШАЙ ПОШТЫ

# НА РАДЗІМУ — "ПАРТЫЗАНСКІМІ СЦЕЖКАМІ"

Вестка аб тым, што для ўезду ў Беларусь уводзіцца візавы рэжым, заспела нас напярэдадні Першага з'езда беларусаў свету. Наколькі строгім будзе гэты рэжым, хадзілі розныя чуткі. У тым ліку і такія, што для беларусаў прыгранічных раёнаў будуць ільготныя візы. Ды ўзнікла пытанне: а чым жа горшыя беларусы, якія пражываюць у больш аддаленых раёнах Латвіі, у якіх, скажам, недзе пад Гомелем жывуць бацькі? Хіба яны менш родныя, а магілы іх продкаў не такія дарагія? Былі чутны сцвярджэнні, што неграмадзянам Латвіі гэты "рэжым" не пагражае. І я быў у тым пераканаһы. Аднак аптымізму ў мяне значна паменшала, калі ў час з'езда мае сябры з "Уздыму", культурна-асветніцкага таварыства беларусаў у Даўгаўпілсе, трапілі пад абстрэл консульскага аддзела ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі: "Вы пакідалі радзіму, ад'язджаючы ў Латвію ў пошуках лёгкага жыцця, а цяпер шукаеце для сябе паблажак!.." Ды ў адрозненне ад тых, хто ад'язджаў, скажам, у Канаду ці ЗША, ратуючыся ад камуністычнага раю, мяжу мы не перасякалі, а гэта цяпер мяжой ледзьве не пераcеклі нашу сувязь з Радзімай. Яшчэ казалі, што гэта крокі ў адказ на візавы рэжым, уведзены ўрадам Латвіі. Ды атрымоўвалася, што ў адплату за тое, што плацяць долары мае блізкія, уязджаючы ў Латвію, такія ж грошы зараз павінен плаціць і я, каб зазірнуць у вочы сваёй хаце, сваёй Айчыне, каб наведаць магілы сваіх бацькоў, братоў і дзядоў, якія мяне прачакаліся. Аднак усяляў надзею, выклікаючы прыхільнасць да сябе, дэмакратычна настроены міністр замежных спраў Беларусі спадар Пятро Краўчанка, запэўніўшы з трыбуны з'езда і на прэс-канферэнцыі, што прыкладзе максімум намаганняў, каб дапамагчы сваім суайчыннікам у блізкім замежжы. Пацвярджаў ён свае словы і ў асабістай размове з намі, падаючы руку праз святочна накрыты стол на развітальнай вячэры пасля з'езда. А таксама думалася, што не дарэмны і наш вусны з трыбуны і пісьмовы зварот да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь.

Ды вось, вярнуўшыся ў Даўгаўпілс 21-га ліпеня, адгарнуў свежы нумар газеты, і... давялося пачуць ад блізкага чалавека: "Здрадзіла табе твая Радзіма. А ты: "Жыве Беларусь!" А ад'язджаючы з роднай вёскі на Астравеччыне, дзе спыняўся на тыдзень з сям'ёй па дарозе са з'езда, я не змог узяць з сабой некалькі неабходных рэчаў (столькі панабіралася дароў саду і лесу!), не паспеў зрабіць некалькі неадкладных спраў. Вырашылі: хутка вярнуся зноў — адпачынак жа яшчэ не закончыўся. А вось зараз — давай раскашэльвайся! Ну ўжо не! На гэты раз прабяруся "партызанскімі сцежкамі"! А жыла б мая мама, якая, перанёсшы два цяжкія інсульты, абмежаваная ў рухах, зімавала ў Вільні ў кватэры старэйшага сына і не магла дачакацца вясны, калі мы адвязём яе ў вёску дахаты? Як бы я наведваў яе там цяпер? Давялося б, відаць, на ўвесь час замураваць яе ў чатырох сценах надакучыўшай кватэры? А колькі яшчэ на Беларусі старэнькіх хворых бацькоў, якія чакаюць дапамогі ад сваіх дзяцей, вятрамі часу і лёсу занесеных у Латвію? А наша беларускае пасольства ў Латвіі, аб якім мы хадайнічалі раней на Першым з'ездзе беларусаў блізкага замежжа? Яно тут будзе выконваць ролю апрычніка, што збірае даніну са сваіх бедных суродзічаў? У большасці з іх наўрад ці збярэцца некалькі "лішніх" долараў пры пасрэдных заробках, пры вялікай плаце за жыллё. І тады на з'ездзе (у снежні мінулага года) я задаваў на прэс-канферэнцыі пытанне намесніку міністра замежных спраў (каб яго адказ пачуў свет) аб магчымасці ўвядзення візавага рэжыму з боку Беларусі, які, ёсць апасенне, можа балюча закрануць і нас. Ды ў эфір гэта не пайшло. Думаў, што проста не хапіла эфірнага часу, а цяпер убачыў у гэтым сэнс...

А назаўтра праз адну сумную ноч, 22-га ліпеня, узяў свежы нумар газеты, і... вельмі хацелася б, каб адмена віз для асоб без грамадзянства была першым крокам урада Беларусі ў напрамку поўнай справядлівасці, што наступнымі крокамі будзе адмена віз і для беларусаў з латвійскім грамадзянствам, выхадцаў з Беларусі, і для членаў іх сямей...

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА,**
**член Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

Даўгаўпілс.

З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



**У нас з'явіліся магазіны для багатых. Не, не трэба шукаць адпаведных папярэджанняў на іх фасадах ці нейкіх асоба аформленых вітрын — знешне ўсё, як паўсюль. Але ж варта зайсці ў іх, і адразу ж становіцца зразумела, што гэтыя магазіны разлічаны на тых, чый сярэднемесячны заробак значна перавышае афіцыйна зацверджаны мінімальны. Кілаграм сыру ці вяндліны, бутэлька віна ці каньяку там, бывае, каштуе значна больш таго, што зарабляе сярэднестатыстычны беларус за месяц. Ды і асартымент адпаведны: наш чалавек, выхаваны на "мокрай" каўбасе і "вечназялёных" памідорах, ходзіць па такім магазіне, як турыст па Луўру: усё нова, цікава, прыгожа і, вядома ж, вельмі прывабна. Можна нават дазволіць сабе пакаштаваць нейкіх прысмакаў, але тады будзь гатовы, што да зарплаты прыйдзецца сядзець на хлебе і вадзе, бо малако, кефір і тварог, традыцыйна танныя прадукты, пасля апошняга ўзняцця цэн па кішэні таксама не ўсім.**

**Наогул, здаровы сэнс падказвае, што, калі ў краіне з'явіліся багатыя, павінны быць і магазіны, дзе яны могуць пакінуць свае грошы і задаволіць патрэбнасці, што раптам рэзка ўзраслі. Што ж тычыцца эмоцый, то яны кіяк не хочуць прыходзіць у адпаведнасць са здаровым сэнсам. Так, магазіны для багатых існуюць ва ўсім свеце, але ж пры гэтым там не забываюцца і пра тых, хто не можа дазволіць сабе есці адны далікатэсы, апранацца толькі ў "фірмовыя" сукенкі і купляць сваім дзецям цацкі за 50-60 тысяч рублёў. Але ж мы, як заўсёды, ідзём уласным шляхам: калі раней усе магазіны былі разлічаны толькі на бедных, дык зараз усё зарыентавана толькі на заможных. Але ж, мабыць, тыя, хто гэта робіць, добра ведаюць сваю справу. Мяркуйце самі: у пачатку гэтага года ў Маскве прададзена "Мерседэсаў-600" (кошт каля 120 тысяч долараў) столькі ж, колькі і ва ўсёй Еўропе. Так і хочацца напісаць: "Расце дабрабыт народа!". Пра багатых ёсць каму падумаць, у гэтым мы ўжо пераканаліся. А вось хто падумае пра бедных!**

## НАКІДЫ ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

# РЭЛІГІЙНЫ ДРУК

ПАСЛЯ другой сусветнай вайны за межамі Беларусі апынулася значная колькасць беларусаў: ваеннапалонныя, моладзь, якую вывезлі на прымусовую працу ў Германію і якая пасля заканчэння вайны засталася на Захадзе, а таксама тыя, хто свядома пакінуў Беларусь разам з адступаючымі нямецкімі войскамі. Сярод беларускіх эмігрантаў знайшлося нямала рэлігійных дзеячаў — праваслаўных, каталіцкіх, уніяцкіх святароў, а таксама вернікаў. У першыя пасляваенныя гады беларускія эмігранты ў асноўным былі сканцэнтраваны ў Германіі, у заходняй зоне акупацыі, у лагерах ЮНРРА для перамешчаных асобаў. Пасля таго, як гэтая міжнародная арганізацыя скончыла сваю дзейнасць у 1947 годзе, а яе лагеры былі ліквідаваны, тыя, хто не пажадаў вярнуцца ў БССР, выехалі на сталае жыхарства ў Амерыку, Аўстралію, краіны Заходняй Еўропы. Рэлігійныя выданні беларусаў на эміграцыі ў першыя пасляваенныя гады друкаваліся ў лагерах для перамешчаных асобаў, а потым у тых краінах свету, дзе пасяліліся беларусы.

Увогуле пасля другой сусветнай вайны назіраецца нейкі ўсплёск рэлігійнага жыцця ў асяродку беларускай эміграцыі. Пра гэта сведчыць вялікая колькасць перыядычных выданняў рэлігійнага накірунку — праваслаўнага, каталіцкага, уніяцкага і пратэстанцкага. Даныя пра такія выданні можна знайсці, напрыклад, у "Паказальніку беларускіх выданняў на чужыне за 1945—1950 гг.", які ўклаў на эміграцыі М. Панькоў, а выдала Крывіцкае навуковае таварыства Пранціша Скарыны. Да ліпеня 1951 года выйшла 12 назваў беларускіх рэлігійных часопісаў, альбо 71 экземпляр. З іх 47 каталіцкіх, 20 праваслаўных і 4 пратэстанцкія. На старонках гэтых выданняў можна знайсці шмат цікавых матэрыялаў пра рэлігійнае жыццё беларускай эміграцыі. У іх друкаваліся тэксты малітваў, вытрымкі з Бібліі, тлумачэнні Свяшчэннага пісання, рэлігійныя літаратурныя творы, паэтычныя і празаічныя, тэксты і ноты рэлігійных музычных твораў, а таксама артыкулы, якія мелі даследчыцкі характар — гістарычныя, філасофскія, тэалагічныя. Значнае месца займалі матэрыялы пра святых, рэлігійных дзеячаў, якіх шануе беларускі народ —Ефрасінню Полацкую, Кірылу Тураўскага і іншых. Тут змяшчаліся таксама мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, Н.Арсенневай, М.Сяднёва і іншых. Немалая частка публікацый тычылася гісторыі Беларусі, гісторыі і сучаснага стану рэлігійнага жыцця на беларускіх землях. Некаторыя з рэлігійных часопісаў, якія друкавалі беларусы на эміграцыі, выходзілі ўсяго некалькі гадоў, а потым па розных прычынах спынялі сваё існаванне, выданне іншых працягвалася амаль да нашых дзён, з цягам часу з'яўляліся новыя часопісы. Рэлігійныя выданні на сваіх старонках змяшчалі шмат цікавых звестак увогуле пра жыццё беларускай дыяспары, пра яе эканамічны і палітычны стан, грамадскую дзейнасць, а таксама друкавалі матэрыялы пра тыя арганізацыі, суполкі, аб'яднанні, якія беларускія эмігранты стваралі ў Заходняй Еўропе, Паўднёвай і Паўночнай Амерыцы, Аўстраліі. У сваю чаргу амаль усе беларускія эміграцкія газеты і часопісы грамадска-палітычнага і культурна-асветніцкага накірункаў, такія, напрыклад, як "Беларус", "Беларускі голас", "Бацькаўшчына" і іншыя, незалежна ад сваёй палітычнай накіраванасці рэгулярна друкавалі на сваіх старонках артыкулы пра рэлігійна-царкоўнае жыццё беларускай эміграцыі.

З беларускіх часопісаў праваслаўнага накірунку нам вядомы "Беларускі царкоўны голас", які выдавалі ў 1946 годзе ў Тырсгайме беларускія праваслаўныя епіскапы, а таксама "Звіняць званы Сьвятой Сафіі", які ў 1946—1947 гадах выходзіў у Рэгенсбургу. Ад 1946-га да сярэдзіны 50-х гадоў у Германіі друкаваўся часопіс "Праваслаўны беларус". У 1955 годзе ў ЗША пачаў выходзіць рэлігійны часопіс праваслаўных беларусаў "Голас царквы", яго выдавала і выдае зараз царкоўная рада Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Нью-Йорку. У наш час у ЗША друкуецца таксама бюлетэнь "Царкоўны пасланец", які выдае прыходская рада БАПЦ сабора св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Беларуская праваслаўная царква ў Паўночнай Амерыцы выдае ў наш час царкоўна-грамадскі часопіс "Царкоўны светач". У 60-я — 70-я гады на эміграцыі выходзіў таксама часопіс "Праваслаўным шляхам". Ад 1989 года ў Лондане выдаецца беларускі праваслаўны часопіс "Голас часу". Рэдагуе яго Ю. Весялкоўскі.

Вельмі змястоўнымі з'яўляюцца беларускія рэлігійныя часопісы каталіцкага і уніяцкага напрамкаў, якія друкаваліся на эміграцыі. Сярод іх "Адраджэнне", "Беларуская думка", "Рунь", "Слова божае", "Беларус на чужыне", "Зніч", "Божым шляхам".

У Парыжы ад 1947 года да канца 1957-га выходзіў часопіс "Божым шляхам" (81 нумар). Рэдагаваў яго айцец Леў Гарошка. З 1964 па 1978 год часопіс выдаваўся ў Лондане пад кіраўніцтвам айца Язэпа Германовіча.

З 1982 года да нашых дзён з перапынкамі ў Лондане друкуецца бюлетэнь "Весьнік Беларускага каталіцкага душпастырства", які для беларусаў-католікаў Англіі і Францыі выдае Аляксандр Надсон, Апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў на эміграцыі. З 1988 года ў Рыме выходзіць бюлетэнь "Хрысціянскія навіны". Ён адлюстроўвае праграмы беларускай секцыі Ватыканскага радыё і распаўсюджваецца сярод беларускай дыяспары. Рэдагуе яго Янка Мойсік.

Пра беларускія рэлігійныя выданні пратэстанцкага накірунку вядома нямнога. Так, у 1946 годзе ў Германіі выйшаў адзін нумар часопіса "Хрысціянскі светач. Голас сябрыны беларускіх метадыстаў за мяжою". У 1947-м у Штутгарце беларус Данііл Ясько рэдагаваў часопіс "Паведамленні Камітэту славянскага саюзу евангельскіх цэркваў". На чатырох мовах — беларускай, рускай, украінскай і польскай выйшла два нумары гэтага часопіса. Аўтару вядома таксама, што ў 70-я гады на эміграцыі выдаваўся "Веснік беларускага эвангельска-баптысцкага брацтва ў ЗША і Канадзе". Выдавалі часопіс І. Панцэвіч і Д. Ясько. Але пра далейшы лёс гэтага весніка, на жаль, звестак няма.

Рэлігійная літаратура, якую выдавалі і выдаюць беларусы на эміграцыі, з'яўляецца цікавым адлюстраваннем увогуле жыцця беларускай дыяспары ў пасляваенны час. Яна ў пэўнай ступені спрыяла таму, што значная колькасць беларусаў на эміграцыі не асімілявалася, здолела захаваць сваю нацыянальную самасвядомасць, сваю мову і культуру.

**Ларыса ЯЗЫКОВІЧ.**

# ЗВАРОТ

## ДА МЯСЦОВЫХ УЛАДАЎ, УСТАНОВАЎ І АРГАНІЗАЦЫЯЎ БЕЛАРУСІ




Нацыянальны Аргкамітэт па сьвяткаваньні ў Беларусі 200-х угодкаў вызвольнага паўстаньня 1794 г. падрыхтаваў храналогію асноўных падзеяў змаганьня нашага народа за волю, роўнасьць і незалежнасьць:

**24 красавіка** — вызваленьне паўстанцкімі сіламі Вільні ад расейскіх акупантаў і ўтварэньне Найвышэйшае Рады Вялікага Княства Літоўскага.

**7 траўня** — пераможная бітва паўстанцаў пад камандаваньнем генерала Вялікага Княства Літоўскага Якуба Ясінскага з расейскім аддзелам каля вёскі **Паляны** (цяпер Ашмянскі раён).

**9 траўня** — далучэньне насельнікаў Берасьцейскага ваяводства да паўстаньня. Утварэньне ў **Берасьці** мясцовага кіраўнічага органа — Парадкавай камісіі.

**27 траўня** — бітва з расейскім войскам пад **Лінnішкамі**, за 12 кіламетраў ад Іўя.

**12—16 чэрвеня** — баявы рэйд аддзела Міхала Клеафаса Агінскага на Меншчыне.

**13 чэрвеня** — вызваленьне ад расейскіх войскаў **Валожына**.

**15 чэрвеня** — абвяшчэньне ў Івянцы М.К.Агінскім Звароту да грамадзянаў Менскага ваяводства.

**16 чэрвеня** — параза аддзела М.К.Агінскага пад **Вішневам.**

**26 чэрвеня** — бітва паўстанцаў пад кіраўніцтвам генерала Якуба Ясінскага з расейскімі аддзеламі пад **Соламі**, ля Смаргоні.

**2 жніўня** — сутычка паўстанцкага аддзела Караля Серакоўскага з расейскім корпусам каля **Слоніма.**

**1—13 жніўня**— рэйд двухтысячнага аддзела Міхала Клеафаса Агінскага з-пад **Вільні** праз **Браслаўшчыну** на **Дынабург** (цяпер Даўгаўпілс), дзе да паўстанцаў далучыўся паўтысячны аддзел мясцовай шляхты і сялянаў на чале з генерал-маёрам К.Беліковічам.

**17 жніўня — 4 верасьня** — рэйд трохтысячнага атрада Стахвана Грабоўскага на **Меншчыне** і **Магілёўшчыне (Івянец, Ракаў, Койданава, Сьвіслач, Пухавічы, Асіповічы, Бабруйск, Глуск, Любань**).

**24 жніўня** — сутычка авангарду С.Грабоўскага на ракаўскім гасьцінцы, у 10-ці вярстах ад **Менску**, з расейскім разъездам.

**26 жніўня** — вайсковая нарада ў **Пухавічах**, на якой вырашана ісьці на паўднёвы ўсход Беларусі.

**30 жніўня** — вызваленьне **Бабруйска.**

**4 верасьня** — бітва з расейскім аддзелам пад **Любаньню.**

**14 верасьня** — сутычка паўстанцаў з авангардам Суворава пад **Дывінам** (цяпер Кобрынскі р-н).

**15 верасьня** — бой кобрынскай павятовай міліцыі Вялікага Княства Літоўскагад пад кіраўніцтвам Казіміра Рушчыца з сувораўскімі аддзеламі ў **Кобрыне.**

**17 верасьня** — найбуйнейшая бітва паўстанцаў пад камандаваньнем Караля Серакоўскага з войскам Суворава каля **Крупчыцаў** (Кобрынскі р-н).

**19 верасьня** — вырашальная бітва пад **Берасьцем.**

**30 верасьня** — нарада кіраўнікоў паўстаньня — Якуба Ясінскага, Тамаша Ваўжэцкага, Юрыя Грабоўскага, Станіслава Макраноўскага пад старшынствам Андрэя Тадэвуша Касьцюшкі ў Каралеўскім палацы ў **Гародні.**

Аргкамітэт заклікае ўсе арганізацыі, установы, выканаўчыя ўлады і грамадзянаў Беларусі ўшанаваць памяць паўстанцаў, палеглых у баях за свабоду Бацькаўшчыны, наданьнем іменаў паўстанцаў вуліцам і плошчам гарадоў і мястэчак Беларусі, усталяваньнем памятных знакаў, таблiцаў, помнікаў, правядзеньнем урачыстасьцяў на месцах баёў і іншых падзеяў Паўстаньня, у родных мясьцінах паўстанцаў; навуковых мерапрыемстваў, выставаў і г.д.

Аргкамітэтам ужо распачата праца па вырабе памятнага медаля; па падрыхтоўцы навуковай акадэміі, прысьвечанай асэнсаваньню падзеяў 200-гадовай мінуласьці; канцэртаў па музычных творах Андрэя Тадэвуша Касьцюшкі, Міхала Казіміра і Міхала Клеафаса Агінскіх ды Мацея Радзівіла, а таксама іншых навуковых, культурных, мемарыяльных акцыяў і мерапрыемстваў.

Аргкамітэт зьвяртаецца да Міністэрства інфармацыі і выдавецтва "Беларусь" з прапановаю паскорыць выданьне кнігі "Паўстаньне 1794 года на Беларусі", падрыхтаваць і выпусьціць юбілейныя плакаты, паштоўкі, буклеты, вымпелы, іншыя выданьні і значкі, а таксама да выдавецтва "Навука і тэхніка" — паскорыць перавыданьне кнігі пра Тадэвуша Касьцюшку ў серыі "Нашы славутыя землякі".

Аргкамітэт мяркуе, што Міністэрства сувязі да 200-х угодкаў вызвольнага паўстаньня 1794 года падрыхтуе і выпусьціць канверты, паштоўкі і серыю марак на тэматыку Паўстаньня.

Справа гонару працоўных калектываў і ўстановаў, якія дагэтуль носяць імя Суворава (у Беларусі ў 35 гарадах і 24 мястэчках ёсьць вуліцы імя Суворава), разгледзець пытаньне аб іх перайменаваньні, бо менавіта гэты чалавек кіраваў расейскай арміяй, што задушыла паўстаньне 1794 г. і нашую незалежнасьць. Інакш як зьдзекам з народнай памяці не назавеш існаваньне Кобрынскага музея і Менскай сувораўскай вучэльні, дзе й сёньня ўслаўляецца "освободительная роль" і "наука побеждать" Суворава.

Аргкамітэт выказвае надзею, што сьвяткаваньне 200-х угодкаў вызвольнага паўстаньня ў Беларусі спрычыніцца да вяртаньня гістарычнай памяці нашага народа, згуртуе нас вакол сьвятой справы адраджэньня Бацькаўшчыны.

**Для тых, хто жадае выступіць фундатарам мерапрыемстваў па сьвяткаваньні 200-х угодкаў вызвольнага паўстаньня на Беларусі, называем наш разліковы рахунак:**

**700733 у Ленінскім аддзяленьні Белбізнесбанка г. Менска. Код 763.**

**Тэлефоны: 33-50-12, 32-54-46, 31-32-59.**

**Адрас: 220005, Менск, вул. Варвашэні, 8.**

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРГКАМІТЭТ ПА СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў БЕЛАРУСІ 200-х УГОДКАЎ ВЫЗВОЛЬНАГА ПАЎСТАНЬНЯ 1794 г.**

**Старшыня Аргкамітэту Мікола КУПАВА.**



**На рыбалцы.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

Станіслаў ЦЯРОХІН

# МНОГІЯ ПРЫЙДУЦЬ АД ІМЕНІ МАЙГО

## (ЕЗУІТЫ НА БЕЛАРУСІ)

**Прозвішча аўтара "Славутых адвагай на вайне", "Мядовага бунту", выдадзеных у "Бібліятэчцы газеты "Голас Радзімы", бадай, не трэба нагадваць нашаму чытачу. Станіслаў Цярохін, акрамя вышэйзгаданых кніжак, напісаў не адзін артыкул для "Голасу Радзімы". Яго ўлюбёная стыхія — даўніна, любіць ён падарожжы ў глыбіню стагоддзяў, каб вынесці адтуль нешта нязведанае, даўно забытае і надта цікавае.**

**На гэты раз Станіслаў Цярохін прынёс у рэдакцыю навукова-папулярны нарыс гісторыі ордэна езуітаў. Нарыс гэты складае аб'ёмную кнігу, якую аўтар падрыхтаваў да друку, мы ж прапануем чытачу скарочаны газетны варыянт яе, мяркуем, што гэта будзе цікавае чытанне, бо, як піша доктар гістарычных навук В. Фядосік, кніга насычана гістарычнымі фактамі, многія з якіх нам невядомы. І галоўнае — аўтар мае свой, беларускі погляд на гісторыю Бацькаўшчыны і на тую ролю, якую адыгралі ў ёй езуіты.**

*Людзі гэтыя блізкія да Мяне вуснамі сваімі і шануюць Мяне языком; сэрца ж іх далёка ад Мяне.*

**Евангелле ад Мацвея. Раздзел 15, верш 8.**

У 1520 годзе Іспанія распачала вайну з Францыяй за Навару. У пачатку наступнага года, калі ўся паўднёвая Навара ўжо знаходзілася ў руках іспанцаў, з Пірэнеяў нечакана спусціўся французскі генерал Фау-Леспар і аблажыў Пампелунскую цытадэль з малалікім, чыста сімвалічным гарнізонам. У час сутычкі ў праломе сцяны быў цяжка паранены кашталян Іньіга Лопес дэ Рэкальдэ: адломак муру раскалашмаціў левую, а куля куляўрыны перабіла правую нагу. Адважны абаронца без прытомнасці паваліўся долу.

Сам па сабе звычайны для вайны выпадак, але на гэты раз раненне далёка выйшла за межы асабістага няшчасця. Трыццацігадовы афіцэр застаўся непрыдатным для вайсковай службы кульгой, а гэтая акалічнасць прывяла да ўзнікнення той да пачварнасці дагматычнай і нецярпімай да іншадумства сілы, якая падобна ракавым метастазам апляла ўсю Еўропу, перакінулася ў Паўднёвую Амерыку і нават Афрыку, пакінула адчувальны дагэтуль след у гісторыі Беларусі.

Энергічны і жыццярадасны Лопес не ўяўляў сябе па-за арміяй, і таму, калі перарвалася апошняя, танюткая, бы павуцінка, нітачка надзеі пазбавіцца кульгавасці, яго захліснула гарачая хваля невымоўнага адчаю. Малады арганізм і славутая ўпартасць васконца пераадолелі фізічныя пакуты і цяжкую душэўную дэпрэсію. Калі крыху палягчала, Лопес у пошуках забыцця прагна накінуўся на зачытаныя да дзірак яшчэ ў дзяцінстве рыцарскія раманы Тэрульды, Вістаса, Лавейры. Але яны яшчэ больш распальвалі горыч, што бесперапынна вярэдзіла душу. У хвіліны роспачы ён шпурляў кнігу на падлогу і, сцяўшы сківіцы, гадзінамі ляжаў моўчкі, утаропіўшы бяздумныя вочы ў пакрытую гарай і разводамі плесні столь бацькаўскага замка.

Пра кавалак хлеба ён менш за ўсё думаў. Некалі знакаміты род Лопесаў хоць і збяднеў, але невялічкі шматок зямлі, што застаўся ад былых уладанняў, дазваляў жыць больш-менш прыстойна. Але адна толькі думка пра шэрае і аднастайнае жыццё правінцыяльнага гідальга выклікала ў няўрымслівай душы васконца бурны пратэст. Ён прыкідваў у галаве розныя варыянты, але прыдатную для сябе сферу дзейнасці не мог знайсці. І тут, як гэта часам бывае, дапамог выпадак.

Змучаная пакутамі сына, свайго трынаццатага дзіцяці, Марына Соне па парадзе мясцовага падрэ паклала ля ложка параненага некалькі рэлігійных кніжак — Жыцці святых, жыццяпіс Ісуса, "Кветку святых". Неўзабаве яна заўважыла на сухім схудалым твары сына непадробную цікавасць. "Слава Богу!" — звыклым рухам рукі радасна перажагнала сябе Марына Соне святым крыжам і задаволеная выйшла з пакоя.

Магчыма, не надта радавалася б жанчына, калі б ведала, якія думкі віруюць у галаве сына. Не спасціжэння глыбіннага сэнсу Божага слова шукаў ён у святых кнігах, яго цікавіў выключна практычны бок жыцця святых. Праз іх канкрэтныя ўчынкі, манеру паводзін, асаблівасці дзеяння Лопес хацеў знайсці адказ на пытанне, якім чынам некаторыя вернікі, напрыклад, святыя Дамінік і Францыск Асізскі (у жыцці Дамінік дэ Гусман і Джавані Бернардоні) зрабілі ва ўлонні царквы бліскучую кар'еру і займалі ў яе арганізацыйных структурах высокія пасады кіраўнікоў манаскіх ордэнаў — генералаў і генеральных магістраў.

Заснаваныя ў першай палове XIII стагоддзя ордэны дамініканцаў (братоў-прапаведнікаў) і францысканцаў (меншых братоў) мелі падобную строга цэнтралізаваную вайсковую арганізацыю на чале з генералам. Дарэчы, абодва ордэны даволі хутка праніклі на славянскія землі. Першы дамініканскі кляштар заснаваны ў Польшчы ў 1223, на Украіне — у 1233 гадах. На Беларусі дамініканцы акапаліся амаль ва ўсіх вялікіх гарадах і мястэчках. У сярэдзіне XVII стагоддзя на беларускай зямлі функцыяніравалі 42 кляштары са школамі пры іх. Між іншым, дамініканскую школу ў Навагрудку скончыў Адам Міцкевіч.

Францысканцы паявіліся на Беларусі гадоў на дзесяць пазней. У XIV стагоддзі ўзвялі свае касцёлы ў Вільні і Навагрудку. Затым спакваля заснавалі кляштары ў Гальшанах, Гародні, Дзісне, Драгічыне, што на Бугу, Ашмянах, Івянцы, Лукомлі, Менску, Навагрудку, Паставах, Пінску, Полацку, Празароках, Воршы, Сянне і ў іншых мясцовасцях краю.

Не магло застацца па-за ўвагай Лопеса і тое, што ордэнскія кіраўнікі розных узроўняў мелі рэальную магчымасць службовага росту. Многія з іх станавіліся кардыналамі, а некаторыя нават папамі. Былому вайскоўцу імпанавала здзіўляючае падабенства манаскіх ордэнаў з арміяй — тыя ж статут, жалезная дысцыпліна, безагаворачнае паслушэнства, іерархічная сістэма чыноў, пасад, падпарадкавання і нават шкала заахвочвання, ушчування і пакарання. Усё гэта разам узятае і абумовіла выбар справы жыцця. Далейшая дзейнасць дазваляе меркаваць, што Лопес ужо ў пачатку новай дарогі бачыў сябе ў будучыні далёка не ў ролі звычайнага манаха, пакорлівага і бязмоўнага выканаўцы чужой волі.

Бацькі сустрэлі рашэнне сына ў штыкі і на ўсякі выпадак загадалі не спускаць з яго вачэй. Але Лопес абвёў усіх вакол пальца. Знешне скарыўшыся волі бацькоў, ён пачаў скардзіцца на прыступы млявасці, абвастрэнне болю ў нагах і зноў пачаў хадзіць на мыліцах. Прытупіўшы ўвагу сямейнікаў, ён на досвітку аднаго сакавіцкага дня 1522 года ўцёк з дому і накіраваўся ў Мантасэрацкі кляштар.

Але шалі яшчэ вагаліся. Дзесьці ў глыбіні душы мулка варочаўся камячок сумнення. Схільны да фаталізму васконец вырашыў даверыць свой лёс... мулу, рахманаму нашчадку асла і падманутай кабылы, які нават не здагадваўся пра ўскладзеную на яго адказную місію і панура тэпаў па размоклай пасля начной навальніцы дарозе. Перад апошняй павароткай гідальга паляпаў па шыі свайго чатырохногага сябрука і сказаў: "Куды павернеш, так і будзе!" Мул павярнуў улева, у бок манастыра. Варта было яму збочыць управа, дзе віднелася маўрытанскае сяло, лёс Лопеса і многіх тысяч людзей пайшоў бы па іншаму шляху, а на зямлі было б менш гора, слёз, крыві, знявечаных душ, нязздзейсненых спадзяванняў.

Ля цудатворнага абраза Багамацеры, што захоўваўся ў капліцы кляштара, Лопес па ўсіх правілах рыцарскага кодэксу прысягнуў на вернасць Святой Дзеве Марыі, ахвяраваўшы ёй сваю шпагу, а дарагія даспехі і рыцарскае ўбранне падараваў ашалеламу ад радасці жабраку.

Апрануўшы жабрацкія лахманы і падперазаўшыся вяроўкай, накіраваўся пешшу ў суседняе мястэчка Манрэсу, дзе для дасягнення адлаведнай святасці і ўмацавання духу вырашыў прайсці выпрабаванне. Пасяліўшыся непадалёку ад мястэчка ў пячоры на скалістым беразе ракі Льёбрэгат, духоўны рыцар давёў сябе постам, малітвамі і самотнасцю да такой ступені фізічнага і душэўнага знясілення, што ў яго пачаліся галюцынацыі: то яго спакушаў усялякімі абяцанкамі д'ябал, то наведваў Бог і ласкава размаўляў з ім. Пры паяўленні творцы ўсяго існага істоту рыцара Святой Дзевы Марыі ахоплівала ўсёпаглынальнае пачуццё пяшчотнага спакою і няведамай душэўнай асалоды. Пасля ён пачынаў трызніць і страчваў прытомнасць.

Паяўленне на людзях рэдка абыходзілася без зняважлівага смеху: дарослыя кпілі з чалавека ў вярыгах пад бруднымі лахманамі з непрыемным пахам, дзеці дражніліся і літаральна не давалі яму праходу. Між тым пагалас пра пустэльніка, чаго, між іншым яму і трэба было, разышоўся далёка за наваколле Манрэсы. Адны лічылі яго святым, другія з'ехаўшым з глузду дзіваком.

Дапаўзлі чуткі і да замка Лаёлы. Старэйшы брат Марцін-Гарсыяс Лопес адразу ж выехаў ратаваць малодшага брата, у якога, як лічылі ў сям'і, мазгі крыху ссунуліся набакір. Але ўсе ўгаворы, аргументы і апеляцыя да слёз маткі адскоквалі, як гарох ад сцяны. Урэшце Марцін махнуў рукой і засмучаны падаўся праз некалькі дзён дадому.

Выпрабаванне пустэльніцтвам яшчэ больш паглыбіла ўласцівы Лопесу фаталізм. Неўзабаве ён адчуў сябе дастаткова падрыхтаваным несці людзям ісціну і выпраўляць вусным і пісаным словам аблудныя душы, бо шчыра ўмацаваўся ў думцы, што дасягнуў найвышэйшага ачышчэння ад усяго грахоўнага і дамогся амаль што нябеснага ўдасканалення, неабходных для гэтай вялікай місіі якасцей. Малаадукаваны і аднабока дасведчаны ў звычайным жыцці чалавек наважыўся і тут жа ў пячоры, так, прынамсі, сцвярджаюць яго шматлікія біёграфы, напісаў кнігу "Духоўныя практыкаванні", па яго цвёрдаму перакананню, пры непасрэдным удзеле Гаспадара Сусвету. Адсюль — блюзнерская самаўпэўненасць, што пры наяўнасці "такой кнігі нават Евангелле становіцца непатрэбным".

Многія даследчыкі, у тым ліку асобы духоўнага звання, адзначалі блытанасць і цьмянасць разумення былым афіцэрам асноўных прынцыпаў хрысціянскай дагматыкі. Напісаная ў жанры рыцарскіх раманаў, адзіных знаёмых яму літаратурных твораў, кніга больш чым яскрава адлюстроўвала сумбур у яго галаве. Аднак, нягледзячы на гэта, шмат якія выказаныя ў ёй палажэнні былі пазней увасоблены ў новастворaным ордэне.

Дзесьці ў лютым 1523 года пакінуў Манрэсу і адправіўся заваёўваць свет. Найперш у Іерусалім пакланіцца магіле Сына Божага, а галоўнае, для наварочвання мусульман у хрысціянства. Правінцыял францысканскага ордэна, да якога паломнік звярнуўся за благаславеннем, адразу ж зразумеў, што мае справу з дрымучым невукам. Асабліва ўражвала хваравітая самаўпэўненасць наведвальніка, поўнае няведанне мясцовых умоў, мовы, звычаяў і асноў ісламу. Стары францысканец жахнуўся, зразумеўшы, колькі дроў можа наламаць гэты фанатык, і загадаў неадкладна пакінуць Палесціну. Ашаломлены такой сустрэчай Лопес скарыўся, тым больш, што першы ўрок ён атрымаў яшчэ на галеры, калі паспрабаваў выправіць нораў разгульнай каманды судна. І так дапёк матросаў, што яны змовіліся выкінуць яго ў мора. Па выхадзе з Адрыятычнага мора ўсчалася бура. Матросам, занятым аўральнай работай, каб захаваць плывучасць галеры і ўтрымаць яе на вызначаным курсе, было не да абрыдлага ім прапаведніка, і ён разам з іншымі багамольцамі высадзіўся жывым і здаровым у Яфе.

І вось цяпер бясслаўна давялося вяртацца назад у Еўропу. З горам у абдымку, абадраны і галодны Лопес неяк дапяўся ў студзені 1524 года да Венецыі. Крыху ачуняўшы пасля падарожжа, нязломны васконец зноў узяўся за сваё, але быў жорстка абсмеяны мясцовымі багасловамі. Публічна, на вачах шматлікага натоўпу венецыянцаў, аматараў розных відовішчаў, у тым ліку і багаслоўскіх дыспутаў, вопытныя апаненты выявілі яго невуцтва і здзекліва параілі набыць буквар і сесці за парту. Што і зрабіў, утаймаваўшы сваю самаўпэўненасць, упарты васконец.

Па дарозе ў Барселону, якую ён абраў для вучобы, рыцар Святой Дзевы трапіў у размяшчэнне іспанскіх войскаў і быў затрыманы як французскі віж. Салдаты здзекаваліся з небаракі, як толькі маглі: не шкадуючы кулакоў, добра намялі бакі, затым распранулі і ў адным касцюме Адама ганялі па ўсяму лагеру. Цудам пазбегшы расстрэлу, герой Пампелуны нарэшце дабраўся да Барселоны і ўладкаваўся ў звычайную школу для вывучэння лаціны, тагачаснай адзінай мовы навукі, багаслоўя, медыцыны, правазнаўства. Ён папрасіў абыходзіцца з ім, як з астатнімі вучнямі, і не рабіць скідак на ўзрост. Расчулены выкладчык лацінскай мовы Ардзебаль адмовіўся браць грошы за вучэнне, а барселонка Ізабэла Розель, багатая і моцна веруючая ўдава, убачыўшы згаладалую ў лахманах істоту з агніста-чорнымі пранізлівымі вачыма, сэрцам адчула божага чалавека і ўзяла яго на бясплатны пракорм на ўвесь час вучобы. Вучыўся трыццацітрохгадовы вучань зацята, грыз, як кажуць, лацінскую граматыку, цярпліва зносіў кпіны хлапчукоў, з якімі сядзеў побач, і зняважлівыя ўхмылкі дарослых.

Тут, у сталіцы Каталоніі, Іньіга Лопес упершыню зрабіў спробу скалаціць групу аднадумцаў, якая б склала аснову будучага духоўнага брацтва. Тры каталонцы і адзін выхадзец з французскай Навары, захапіўшыся ідэяй аскетызму і палымянымі прамовамі рыцара Святой Дзевы Марыі, далучыліся да васконскага фанатыка, прызнаўшы яго сваім духоўным кіраўніком. Але суполка хутка распалася. Вучні адракліся і пакінулі свайго настаўніка, як гаворыцца, ля разбітага карыта.

Больш дзесяці гадоў спатрэбіцца яшчэ ўтрапёнаму васконцу для ажыццяўлення сваёй галоўнай ідэі — стварэння дзейснай арганізацыі барацьбы з ворагамі каталіцкай царквы, а яе ворагамі, як ён лічыў, было ўсё чалавецтва, акрамя каталікаў. Многа зведаў ён за гэты час гора і бяды, здрады і расчаравання ў блізкіх людзях. Некалькі разоў трапляў у рукі святой інквізіцыі, але кожны раз знаходзіліся заступнікі і вызвалялі яго з-пад арышту. Старэйшы інквізітар і вялікі вікары дамініканцаў Фігвераа, выпускаючы Лопеса на волю пасля аднаго з чарговых зняволенняў, настойліва параіў яму "старанна вучыцца і не баламуціць народ". А вялікі вікары дамініканцаў у Саламанцы Фрыяс, куды перабраўся з Алкалы непрызнаны барацьбіт за чысціню слова Божага, даў аналагічную параду, падкрэсліўшы, што ён "мала спрактыкаваны ў рыторыцы і можа ўпасці ў ерась".

**(Працяг будзе).**

# "ДАЎНО НЕ МЕЛІ З АМЭРЫКІ ЛІСТОЎ..."

**[Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.].**

Многоуважаемый господин Консул.

Имею честь изложить Вам в настоящей записке некоторые информационные сведения, касающиеся белорусского вопроса в связи с тем движением, которое ныне происходит в Северо-Американских Соединенных Штатах.

Белорусское национальное движение, начавшееся [неразб.] освободительных идей России (крестьянская реформа, введение земства и т.п.) имеет своей целью культурно-национальное, экономическое и политическое возрождение Белоруссии. Основным постулатом движения является твердо установленный принцип, что возрождение Белоруссии может быть достигнуто только при условии, если оно будет опираться на всем народе. Широкий демократизм — вот основной лозунг движения. Движение имеет своей целью воспитать в белорусском народе чувство гражданственности, уважение к своим национальным особенностям, к своей истории и своим обычаям. Белорус может быть гражданином своей страны только тогда, когда в нем исчезнут прежние, воспитанные самодержавным режимом, рабские привычки.

Распад бывшей Российской Империи выдвинул на очередь чисто политическую проблему устроения Белоруссии. При Временном Правительстве вопрос этот не успел быть решенным. Захват центральной власти большевиками бесповоротно решил этот вопрос: 25 марта 1918 года на всенародном конгрессе (1 872 депутата) Белоруссия была объявлена независимой от Москвы Демократической Республикой.

Во главе Белоруссии стала Рада (Совет) Республики, которая должна была осуществить созыв учредительного собрания Белоруссии. Правительственный центр находился в Минске.

Осуществлению независимости Белоруссии, однако, помешала польско-большевистская война. Сдавленная с двух сторон Белоруссия не могла удержать национальной власти, и правительство Белорусской Народной Республики принуждено было переехать на территорию дружественной Литвы, где пребывает до настоящего времени.

Деятельность Белорусского Правительства в настоящее время направлена к тому, чтобы по мере возможности укрепить в народе стремление к демократической власти и добиться в результате установления объединенной и независимой Белоруссии.

Лозунги национального возрождения в демократических формах имеют в широких массах исключительный успех. Стремление жить своей жизнью, для своих интересов, а не для чужих все ярче проявляется во всех классах населения и служит залогом того, что раньше или позже, но народ добьется своего освобождения. Вместе с установлением законной и нормальной власти в России встанет вопрос о заключении с ней тесного демократического союза, без какового Белорусь не может строить своего будущего.

Настоящее положение Белоруссии Вам, Господин Консул, известно: по Рижскому договору Белоруссия разделена между Польшей и Советской Россией. В пределах Советской России советская власть создала фикцию независимой советской (красной) Белоруссии, чем достигает одновременно двух целей. Во-первых, удостоверяет перед Европой и Америкой свою кажущуюся последовательность принципу свободы самоопределения народов; во-вторых, якобы делает уступку и тем примиряет себя с белорусским национальным движением.

Положение оккупированных частей Белоруссии чрезвычайно тяжелое. Большевистский режим восточной Белоруссии разрушает все основы нормальной жизни; польский режим в Западной Белоруссии направлен к тому, чтобы убить в белорусском народе самую мысль о независимости белорусской нации и превратить этот край в Польшу. Осуществляется любимая циничная теория польских политиков, что Белорусь должна явиться польской колонией, а белорусский народ — навоз для более пышного расцвета польской культуры.

Страдания белорусского населения под польской оккупацией являются одним из наиболее могучих стимулов организации белорусов в Америке. По данным статистики, число граждан Северо-Американских Соединенных Штатов, белорусов по национальности, исчисляется в ... человек[1]. Большинство из них проживает в штатах:

К сожалению, как это можно с очевидностью удостоверить, все движение белорусов в Америке попадает в ненадлежащие руки.

Правительство Белорусской Народной Республики имеет данные о том, что благородные стремления американских белорусов, направленные к защите их родичей от тяжестей польской оккупации, утилизируются враждебными им силами в целях большевистской пропаганды. Дело это ведется очень умело. Вначале руководители и организаторы его не выявили своих истинных намерений и, говоря о польских зверствах в Западной Белоруссии, умалчивали о том, что творится в Восточной Белоруссии, оккупированной большевиками. Когда же на платформе защиты Белоруссии от поляков были созданы необходимые организации, руководители их выдвинули лозунг соединения Белоруссии с Советской Россией, всячески ее восхваляя.

Ныне подобные программы уже не считают нужным скрывать, и в некоторых русских американских газетах ведется открытая большевистская агитация. Так поступает организация, известная под именем "Чикагского Комитета Защиты Белоруссии". Свое последнее слово упомянутый Комитет произносит в форме "Открытого письма Белорусского Национального Комитета в Риге, Вильне и Ревеле". Не соглашаясь с тактикой борьбы упомянутых комитетов с польским гнетом и неумело полемизируя с лозунгами белорусского национального движения, "Чикагский Комитет" в конце письма раскрывает свои карты призывом к белорусам, живущим в Америке, объединять свои силы с Советской Белоруссией и Советской Россией.

Поскольку агитация за Советскую Россию ведется в Америке агентами и представителями Московского правительства, имеет своим объектом русских, правительство Белорусской Народной Республики, стоя на демократической платформе, не считает для себя возможным бороться против нея. Это дело русского общества и русских демократических партий. А поскольку попытки этих большевистских агентов направлены на белорусскую массу в Америке, на которую правительство Белорусской Народной Республики возлагает надежды как на один из более активных и ценных элементов в деле возрождения родины, — остаться к этому равнодушным оно не может.

[1] Пропуск у арыгінале.

Борьба с подобной пропагандой ведется белорусскими демократическими организациями путем переписки с американскими белорусами, путем посылки им воззваний, литературы и т.д. Но как видно из обозрения соответствующих данных, главным образом прессы, подобный способ борьбы не достигает цели. Письма и литература очень часто попадают не по адресу и при злой воле тех лиц, в руки которых они прибывают, обращаются часто во вред движению.

В результате более чем годового наблюдения за белорусским движением в Америке правительство Белорусской Народной Республики пришло к твердому убеждению, что для предупреждения вредной пропаганды большевизма среди американских белорусов необходимо противопоставить ему организованные в Америке же установления, стоящие на демократической платформе. Необходима организация Белорусского Национального Комитета по образцу тех, которые существуют в Европе.

Попытки правительства Белорусской Народной Республики образовать подобный комитет отсюда до сих пор не привели к цели. Слишком далеко расстояние и очень трудно найти соответственных организаторов.

Поэтому представляется неизбежным послать в Америку белорусскую делегацию с соответственными поручениями. В состав делегации должны войти лица, известные правительству Белорусской Народной Республики как деятели белорусского демократического движения. В том числе некоторые члены белорусского правительства.

Правительство Белорусской Народной Республики выражает уверенность, что намерения ея, изложенные в настоящей записке, соответствуют интересам Вашего Правительства и что с Вашей стороны, господин Консул, они встретят поддержку.

В случае, если Вами будет получен благоприятный ответ на нашу просьбу о посылке в Северо-Американские Соединенные Штаты Белорусской Делегации, Правительство Белорусской Народной Республики будет иметь честь сообщить Вам имена тех деятелей, которые войдут в ее состав. Пользуясь случаем выразить Вам, господин Консул, чувство моего глубокого к Вам уважения, готовый к услугам...

Наступны дакумент — першы ў "амерыканскай" папцы (адз. зах. 30, арк. 1—3). Прызнаюся, зварот "**Руска**-Славянскаму таварыству ў Нью-Ёрку" ўвесь час бянтэжыў мяне сваёй неадпаведнасцю мовы, зместу ліста і асобы адрасата. Чаму, звяртаючыся да рускага таварыства, Ластоўскі піша па-беларуску? З нацыяналістычных настрояў? Але да амерыканскага консула, як сведчыць папярэдні дакумент, ён спакойна пісаў па-расейску.

Манаграфія Вітаўта Кіпеля дае на гэта разгорнуты і пераканаўчы адказ. Вось адно з дзесяткаў сабраных аўтарам сцвярджэнняў: паводле чыкагскай "Беларускай Трыбуны" (1928, N 2), "расейская калёнія складаецца на 99% зь беларусаў. Фактычна ўсе "расейскія" арганізацыі ў Чыкага дый у **іншых амэрыканскіх гарадох** складаюцца зь беларусаў" (тут і вышэй падкрэслена мною. — **Я. Я.**).

Руска-Славянскаму Таварыству ў Нью-Ёрку

Ад імені Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі звяртаюся да Вас, Паважанае Таварыства, з просьбай памагчы грашыма на надрукаванне патрэбных для беларускіх школ кніжак.

Ня гледзя на ўсялякія перашкоды і перапоны са стараны палякаў, якія часта арыштоўваюць нашых вучыцялёў і закрываюць школы, усё ж такі на тэрыторыі, занятай палякамі, існуе цяпер каля 500 пачатковых школ (у Віленшчыне і Горадзеншчыне), 3 гімназіі (у Вільні, Горадні і Гарадку Вілейскага павету), да і адна вучыцельская семінарыя (Баруны Ашмянскага павету).

Усе гэтыя школы ўтрымліваюцца на кошт беларускага насялення. Многа пачатковых школ існуе пакрыёма, дзеля таго, што палякі не даюць пазвалення. І пры ўсіх труднасьцях барацьбы за сваё нацыянальнае жыццё, у нас яшчэ вялікі недахват кніжак для школ. У некаторых школах на 5—10 вучняў адна школьная кніжка, а мейсцамі справа з кніжкамі і яшчэ горай.

Не лепей наша культурная справа стаіць і ў Савецкай часці Беларусі. Праўда, там адкрыта каля 5 000 пачатковых школ і некалькі сярэдніх, але кніжны голад там яшчэ вастрэйшы: часта на ўсю школу маюць усяго адзін камплект кніг, а ёсць школы, дзе дзеці вучацца саўсім без кніг, пішучы на досках. Тлумачыцца гэта найперш тым, што ў Савецкай Расеі наогул няма паперы і паразбіваны друкарні. Зрэшты, адношання савецкіх уласцей да культурных патрэб беларускага народу прыхільны толькі на словах і ў газэтах, а фактычна, каб нашы арганізацыі не падтрымлівалі самі сваёй культурнай справы, то з аднэй іхняй помачы трэба было бы саўсім пазачыняць усе школы. Напрыклад: на дзяржаўнае савецкае беларускае выдавецтва апошнімі часамі асігнавана аж 5 000 000 савецкіх рублёў. Перавёўшы гэтыя вялікія грошы на даляры, атрымаецца ўсяго... 250 даляраў. Ведама, што з такімі грашамі многа зрабіць няможна.

Па самаму скромнаму падшчоту трэба надрукаваць для нашых школ 1 000 аркушаў. Лічачы па 2 500 ням. мар. (каля 38 даляраў) за аркуш друку без аплаты аўтарскіх ганарараў і кліш для ілюстрацый, атрымаецца сума 2 500 000 ням. марак. На аўтарскія і клішэ, далічыўшы 1 500 000, атрымаецца круглая сума ў 4 000 000 нямецкіх марак, або каля 60 000 даляраў.

Урад, знаходзячыся на чужой тэрыторыі і ведучы палітычнае змаганне за цэласць і незалежнасць Беларусі з такімі сільнымі ворагамі, як польскі імперыялізм і расейскі цэнтралізм, не можа здаволіць гэтыя нашыя патрэбы, звяртаючы ўсе свае сілы і ўсе кошты (вельмі ў дадатку кошты аграніччаныя) на палітычную работу і змаганне за лепшую будучыню. На сваё ўтрыманне Урад дабывае грошы праз нацыянальныя арганізацыі з абяднеўшага і разбуранага вайной краю. Пры найлепшай ахвоце вялікіх грошай выдаць не можа. Тым болей, што кнігі прыходзіцца раздаваць дзецям дарма, як гэта робяць і палякі ў нас з мэтай, каб перацягаць дзяцей у свае школы, а знача затрачання капіталу можа вярнуцца толькі ў нязначнай частцы.

Калі бы Паважанае Таварыства знайшло магчымым прыняць на сябе ўсе або часцю коштаў па выдавецтву кніг для беларускіх школ, то наша просьба да Вас перавесці азначаную падмогу тэлеграфам, каб скарэй можна было прыступіць да працы і каб на восень школа наша была ўжо забяспечана кніжкамі. Грошы найлепей перавесці на Літоўскі Дзяржаўны Банк у Коўне на імя нашага Ураду.

З вялікай пашанай Старшыня Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі[1]

* * *

Ліст В. Ластоўскага да Міхайлы Зварыка ў Нью-Йорк пераклікаецца з лістом у Руска-Славянскае Таварыства. У паказальніку іменаў кіпелеўскай манаграфіі згадваецца толькі Хведар Зварыка. Магчыма, удачлівы бізнесмен Хведар Зварыка, "які меў адзёжнае прадпрыемства ў Браўнсвіле, Нью-Ёрк" (с. 198), у 1939 годзе і адзін з кіраўнікоў беларускай арганізацыі таксама ў Браўнсвіле (Бруклін) згаданы без імя Зварыка (с. 103) — розныя асобы. У кожным разе адрасат Ластоўскага — Міхайла Зварыка — застаецца пакуль што постаццю бліжэй невядомай.

[1] Подпісу няма.

25 кастрычніка 1921 г.

Яго Дастойнасці Грамадзяніну Міхайлу Язэпавічу Зварыка ў Нью-Ёрку

Я атрымаў ліст ад грамадзяніна Бубешка[1] з паведамленнем, што мой ліст з просьбай аб дапамозе на культурна-прасветную працу ў Беларусі ім перададзен па назначэнню ў Руска-Славянскае Таварыства. У тым жа лісце ён, паведамляючы аб сваім выездзе на Далейшы Усход[2], кажа, што ў часе яго нябытнасці можна знасіцца з Вамі. Дзеля гэтага выбачайце, што Вас турбую нашымі справамі, але палажэнне ў нас на бацькаўшчыне так цяжкое. Асабліва цяжкое палажэнне нашай школьнай справы за недастаткам кніг. Калі ніякім спосабам нельга дастаць ад нашай амерыканскай калоніі падмогі на грамадзянскія ўстановы, каб яны маглі працаваць, то ці не маглі бы Вы знайсці людзей, якія захацелі бы ўлажыць у выдавецтва беларускіх кніг грошы дзеля заработку? Кніга беларуская цяпер мае вялікі попыт. Выдавецтва з вялікім капіталам мае вялікія шансы на працвітанне. Разумеецца, даход пачне даваць яно не з першага, а з 5—6 году. Адзін толькі варунак — асоба ці пайшчыкі такога прадпрыемства павінны быць беларусы. А гэта таму, што інтэрас пэўны і нашы грамадзянскія ўстановы не хочуць, каб на нашай кнізе рабілі сабе маёнткі чужынцы. Можна было бы злажыць акцыйнае "Таварыства беларускай кнігі". Асабліва падходзячы гэта інтэрас для тых беларусоў, якія з капіталам хочуць вярнуцца на бацькаўшчыну. Нам вядомыя выпадкі, што, вярнуўшыся з Амэрыкі, людзі, нават з вялікім капіталам, так няўмела пакіравалі грашамі, што ў некалькі гадоў асталіся з пустымі рукамі і толькі збагацілі розных прайдох. Уложаныя ж грошы ў выдавецтва давалі бы ім пастаянны і саўсім пэўны, у дадатку стасункова высокі, працэнт. Найтанней кнігі друкаваць у нас у краю, урад (праўленне) таварыства павінна было бы абаснавацца дзе-небудзь у Літве ці Латвіі, каб блізка было да бацькаўшчыны і каб тавар мог ляжаць у бяспечнасці.

Мы даўно не мелі з Амэрыкі лістоў і не ведаем, што робіцца нашымі беларусамі. Што робіць прэс-бюро[3]? Вестак ад яго мы даўно не мелі.

У нас адбылася ў Празе Беларуская Нацыянальна-Палітычная канферэнцыя[4], вынесеныя рэзалюцыі пасылаю разам з гэтым лістом.

Астаюся з вялікай пашанай[5].

[1] Бубешка Сцяпан (1874—1928) — адзін з найстарэйшых свядомых беларускіх эмігрантаў, ураджэнец Гродзеншчыны (мястэчка Лунна Мастоўскага раёна), прыехаў у Амэрыку ў 1890 годзе.

[2] На Далейшы Усход — як паведамляе В. Кіпель, "калі С. Бубешка быў пераведзены кампаніяй на іншую працу за межамі Злучаных Штатаў", дзейнасць беларускай арганізацыі ў Браўнсвіле (Бруклін) прыпынілася (с. 103).

[3] Прэс-бюро — дзейсны асяродак беларускага слова. Прэсавае Бюро паўстала ў Нью-Ёрку і месцілася па адным адрасе з нью-ёркскім Беларускім Нацыянальным Камітэтам.

[4] Беларуская Нацыянальна-Палітычная канфэрэнцыя адбылася ў Празе ў верасні 1921 года і мела мэтаю каардынацыю дзейнасці розных беларускіх палітычных партый і рухаў.

[5] Як і ў папярэднім лісце, подпісу няма, аднак далей у справе ідуць аўтографы В. Ластоўскага — чарнавыя накіды гэтых пісем.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

# ПАД ВЫСОКІМ НАПРУЖАННЕМ



*НАТАТКІ З НАГОДЫ 60-годдзя КІНАРЭЖЫСЁРА Віталя ЧАЦВЕРЫКОВА*

Яго імя — сярод імёнаў тых дзеячаў беларускага кіно, якія ў нядаўнім мінулым вызначалі яго ўзровень, тэматычную скіраванасць і аблічча. І радасць прызнання адчуў, атрымаўшы ў 1979 годзе пачэснае званне народнага артыста рэспублікі. Творчая біяграфія яго абарвалася заўчасна. Ён усяго на дзесяць дзён перажыў сваю сталасць — 50-годдзе. Нарадзіўся Віталь Чацверыкоў у жніўні 1933 года і ў той жа месяц 1983 раптоўна памёр. Лёс адвёў яму на творчасць усяго два дзесяцігоддзі: дэбютаваў у 1963-м кінанавелай "Не плач, Аленка", а ў 1983-м не паспеў завяршыць апошнія здымкі кінадрамы "Сад". Жыццё яго можна пазначыць назвай аднаго з створаных ім дакументальных фільмаў — "Высокае напружанне" (аб мантажніках-высотніках).

Незадоўга да трагічнага жнівеньскага дня 83-га мы сустрэліся з Віталем Паўлавічам, мелі працяглую размову. Загадзя дамовіліся, што яна будзе даверлівай і шчырай, па магчымасці — самакрытычнай. Ён ахвотна адказваў на ўсе мае пытанні, не адбіваўся ад крыткі, разважаў аб тым, што зрабіў сам, яго калегі-рэжысёры, дзяліўся планамі, прызнаваўся, што будзе больш жорстка ставіцца да сябе, як ён казаў, "у плане псіхалагізацыі характараў і вобразнай пластыкі". Я адчула, што яму хацелася выгаварыцца, падбадзёрыць сябе пасля нядаўняга інфаркту і перад здымкамі новага фільма "Сад". Успамінаў юнацтва на караблі, дзе служыў бацька, Ленінградскае ваенна-марское вучылішча, як пасля яго нечакана для самога сябе трапіў ва Усесаюзны інстытут кінематаграфіі. Там прыгожага стройнага юнака залічылі на акцёрскі факультэт. Вось ён ужо і складаную ролю Мечыка ў фільме "Разгром" сыграў. А недзе ў падсвядомасці вабіла рэжысура, і ён пераходзіць у рэжысёрскую майстэрню Р. Козінцава, мастака бескампраміснага.

— А самому потым даводзілася і адступаць ад "наказаў" педагога, — па абавязку крытыка ўпікнула я Віталя Паўлавіча, маючы на ўвазе яго малацікавую камедыю "Саша-Сашачка", першую поўнаметражную карціну толькі што дыпламаванага рэжысёра.

— Я доўга "хандрыў" пасля "Сашачкі", — прызнаўся мой субяседнік на пачатку той нашай (і, як аказалася, апошняй) размовы. — Але няўдача дала мне і карысны ўрок: рабі фільмы пра тое, што ведаеш, дакопвайся да праўды. Каб глыбей ведаць жыццё, накапіць уражанняў ад сустрэч з людзьмі, я часова пакінуў ігравое кіно і пайшоў у дакументалістыку.

Яна дапамагла маладому рэжысёру знайсці сваю тэму, герояў, якія найбольш цікавілі яго. "Высокае напружанне", "Праз горад, праз гады", "Пакараны ў сорак першым", "Семдзесят дзевятая вясна", "Я хачу вам расказаць" — аб людзях высокага грамадзянскага абавязку. Кожны з гэтых кінанарысаў мае лаканічны і выразны вобраз (электрамантажнікаў, мінскай трамвайшчыцы, былога марака-чырвонагвардзейца, юнага падпольшчыка, настаўніцы — сястры піянера-героя Марата Казея). З плыні ілюстрацыйна-дэкларацыйных стужак чацверыкоўскія дакументальныя кароткаметражкі вызначаліся лаканічнай змястоўнасцю, шчырай зацікаўленасцю лёсамі сваіх герояў, шчырасцю размовы з імі. У кадры — атмасфера ўзаемнага даверу, што наогул было характэрна для твораў кінематаграфістаў з пакалення "шасцідзесятнікаў". Кіруючыся праўдай факта, В. Чацверыкоў імкнуўся паглыбіцца ў аналітычнасць, якія абумовілі яго "прапусціць" праз, як ён сам гаварыў, "вочы публіцыста не ў ружовых акулярах, а з наведзеным на чалавека біноклем".

— Нельга адразу брацца за глабальныя тэмы, да іх патрэбны прыступкі, — зазначыў Віталь Паўлавіч, калі размова пайшла аб яго шасцісерыйным тэлефільме "Руіны страляюць" і шырокаэкранных дылогіях "Полымя", "Чорная бяроза". Публіцыстыка была апірышчам рэжысёра пры іх стварэнні. У савецкім кіно 70-х гадоў патэтыка часта пераважвала праўду гісторыі. Адчуваецца гэта і ў беларусьфільмаўскіх эпапеях рэжысёра Чацверыкова. Аднак яны дакладна сведчаць аб гераізме беларускага народа ў гады барацьбы з нямецка-фашысцкімі акупантамі, яго незмернай трагедыі. Чацверыкоў з нейкай унутранай крыўдай прагаваў на папрокі крытыкаў за ілюстрацыйны спосаб вырашэння некаторых сюжэтных ліній, вобразаў. Справаваў апраўдацца тым, што ў эпічных творах нельга дэталёва паказаць усё: тут важна, каб вакол цэнтральных ліній і сітуацый узнікала "поле прыцягнення, каб у ім пульсавала аўтарскае адчуванне".

Высакароднасць памкненняў герояў, маральны аспект іх учынкаў і аўтарскай пазіцыі былі важнейшымі прынцыпамі Віталя Чацверыкова як мастака. Ён імкнуўся да такой размовы з гледачом, калі ўстанаўліваецца ўзаемаразуменне, давер да аўтарскай пазіцыі. Дзеля гэтага апісанні ў сцэнарыі падзей, сітуацый рэжысёр "абжываў", ці, як ён гаварыў, пераварваў да такой кандыцыі, што сам нібыта рабіўся іх удзельнікам. І заўсёды шукаў такіх выканаўцаў ролі, якія б не дапускалі найгрышу ні ў якім стане. І сапраўды: мноства персанажаў прайшлі перад кінакамерай у серыяле "Руіны страляюць". І кожны нібы з хронікі часоў Вялікай Айчыннай.

Як у жыцці, так і ў мастацтве В. Чацверыкоў свае сімпатыі аддаваў людзям яснай пазіцыі, здольным на рызыкоўныя ўчынкі. І ўжо таму, лічыў рэжысёр, яны не могуць быць "чысценькімі", прыкладна станоўчымі. Увасабленнем такой установкі быў фільм аб Палессі "Паводка".

Сцэнарый гэтай дылогіі з'явіўся пасля таго, як рэжысёр разам з пісьменнікамі В. Казько і В. Адамчыкам, кінадраматургам Ф. Коневым і аператарам Ю. Марухіным праехалі амаль усе мясціны, якія закранула "вялікая меліярацыя". Сустракаліся з тэарэтыкамі і практыкамі, вывучалі розныя канцэпцыі пераўтварэння "балотнага краю". І зразумелі, адчулі вялікую драму. Пасля гэтага з'явіліся яе героі і антыгероі, асобы, што тварылі рэчаіснасць. Мацвей Роўда апынуўся ў цэнтры гэтай драмы таму, што многае браў на сябе. І памылкі яго маюць маштаб цэлай сістэмы.

Героі ігравых фільмаў Чацверыкова разнапланавыя: падпольшчыкі і партызаны, меліяратары і будаўнікі прамысловых гігантаў, золатаздабытчыкі (з рамана Дж. Лондана "Час-Не-Чакае"), памесныя дваране (з аповесці І. Тургенева "Зацішша"). Мастацкі ўзровень вобразаў неаднолькавы. Але ёсць ва ўсіх іх эмацыянальная ўзрушанасць, пакутлівыя пошукі маральных высноў. Рэжысёр прымаў блізка да сэрца ўсё, што рабіў. Можа таму яно і не вытрымала — спынілася ў росквіце творчых сіл.

У апошнюю нашу сустрэчу (ясны вясновы дзень 1983 года) мы сядзелі ва ўтульным пакоі Дома кіно, пілі каву, а магнітафон фіксаваў нашу размову, якую сам Віталь Паўлавіч назваў споведдзю. Яго нервовы рухомы твар паружавеў. Ён часта курыў, а на маю заўвагу, што гэта рызыкоўна пасля інфаркту, з сумнай усмешкай адказаў: "Хачу пражыць мужчынам, а не хворым рэштү, наканавана мне лёсам". Рэшта аказалася невялікай. "Сад" выйшаў на экраны, калі рэжысёра не было ў жывых. Але там страсная абарона дабрыні і сумленнасці, непрыняцце дырушніцтва і прыстасавальніцтва. Два героі — антыподы па жыццёвых прынцыпах (былы вайсковец і партызан, які пасля вайны арганізаваў прытулак для асірацелых падлеткаў, і хцівы, здольны на падман загадчык гаспадаркі) — вызначылі змест і жанр фільма. У назве "Сад" — не толькі вобраз жыцця, якое прадаўжалася на вызваленай ад акупантаў беларускай зямлі. У сцэнарыі В. Казько і Ф. Конева сэнс маральна-філасофскі.

Калі ў думках праецырую на экран "Сад", "Чорную бярозу", "Паводку" і іншыя фільмы рэжысёра Віталя Чацверыкова, сілуэтам бачу за імі чалавека з абвостраным пачуццём, дзёрскага ў намерах, не заўсёды абачлівага ў выбары сродкаў для іх увасаблення.

**Ефрасіння БОНДАРАВА.**

## ВОДГУЛЛЕ

# КАМУ ПАТРЭБЕН ТАКІ "СЛАВЯНСКІ КІРМАШ"?!

Прагучалі апошнія акорды другога па ліку "Славянскага кірмашу". На працягу тыдня па тэлебачанні былі паказаны канцэрты адкрыцця фестывалю, нацыянальныя Дні Расіі, Украіны і Беларусі, канцэрт фіналістаў — маладых выканаўцаў, і, нарэшце, канцэрт закрыцця кірмашу.

З'яўляючыся вялікім аматарам музычнага мастацтва, я пільна сачыў за ўсім, што адбывалася ў старадаўнім беларускім горадзе Віцебску. Скажам шчыра: фестываль славянскага, падкрэсліваю, славянскага музычнага мастацтва на самым высокім узроўні не адбылося...

Такі сабе балаганны кірмашок, асабліва гэта ярка праявілася на канцэрце закрыцця фестывалю. Тут табе і "Песняры", і "Шчаслівы выпадак", і Піліп Кіркораў, і Сафія Ратару, але тут жа і вар'яткі з "Паліцыі нораваў"!!! Хто дадумаўся іх запрасіць на кірмаш?! Захацелася, каб было, "як у Еўропе"? Але ж мы яшчэ далёка не Еўропа, асабліва што тычыцца поп-рок музыкі! І наш глядач не прывык бачыць на сцэне паўголых, пастрыжаных пад "Катоўскага" дзявок, якія пад чужы спеў імітуюць танец кахання! А ў Віцебску адбылося ў заключны вечар кірмашу менавіта гэта. А ў Беларусі ж прыняты Закон аб барацьбе з парнаграфіяй!!! Вось вам і "барацьба"! "Паліцыя нораваў" сваім віхляннем прапагандавала секс, прычым вельмі нізкапробны, і я ўяўляю, як павінны былі сябе адчуваць людзі ў зале, якія яшчэ не страцілі пачуцця сораму.

Славянская мараль не дапускае распушчанасці, і калі арганізатары гэтага шоу асмеліліся назваць яго "славянскім", то патрэбна праводзіць вельмі скрупулёзны адбор і выканаўцаў, і творцаў, якія гэтымі выканаўцамі будуць паказаны гледачам. Безумоўна, былі на кірмашы і светлыя імгненні, сапраўднае музычнае мастацтва: маю на ўвазе прыгожыя спевы сапраўдных зорак славянскай эстрады Алегравай, Ратару, "Сяброў", "Песняроў", Кіркорава, але іх магло і павінна было быць больш, асабліва з такіх славянскіх краін, як Польшча, Чэхія, Славакія, Славенія, Харватыя, Сербія, Македонія, Балгарыя... Думаецца, што на кірмашы ў Віцебску ўдзельнікі конкурсу выканаўцаў павінны абавязкова выконваць адну песню беларускіх кампазітараў (на беларускай мове ці мове выканаўцы песні), раз кірмаш адбываецца на беларускай зямлі! Безумоўна, што гэта ўсё толькі мае асабістыя погляды на кірмаш, і я буду ўдзячны ўсім іншым неабыякавым чытачам газеты, якія таксама выкажуцца па закранутых мною праблемах, выкажуць нешта сваё.

**Пятрусь КАПЧЫК, філолаг.**
г. Ізяслаў, Украіна.



**Працягваецца знаёмства музычнай грамадскасці нашай рэспублікі з маладзёжнымі аркестрамі Германіі. З вялікай праграмай арыгінальных твораў на гэты раз у Мінск прыехаў калектыў акардэаністаў зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Ім дырыжыруе прафесар Мюнхенскай кансерваторыі Бернадэт Мальтры. Маладыя музыканты далі шэраг канцэртаў у нашай сталіцы, знаёміліся з культурай рэспублікі, сустракаліся з аднагодкамі з хору "Менка" Мінскага вучылішча мастацтваў.**

**НА ЗДЫМКУ: нямецкія музыканты пасля канцэрта.**
**Фота У. ВІТЧАНКІ.**

# МРЫЙ: НОВАЕ ЗНАЁМСТВА

Выйшаў аднатомнік Андрэя Мрыя "Творы" (укладанне і прадмова "Празорлівасць мастака" Я. Лецкі).

Адкрываецца кніга лістом "Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну", напісаным аўтарам у сталінскіх засценках, з якога добра відаць, якія складаныя і супярэчлівыя працэсы адбываліся ў трыццатыя гады і наколькі людзі, нават арыштаваныя, зняволеныя вер..ылі "праведлыру ўсіх народаў".

Змешчаны раман "Запіскі Самсона Самасуя", журналісцкія допісы А. Мрыя, аб'яднаныя назвай "Гарачыя кропкі часу". Наступныя матэрыялы ўвайшлі ў раздзелы: "Цікаўным вокам" (дарожныя нарысы "Па Гомельскай акрузе", "Каапературы гандлююць!", "Па Дзвіне ў Сураж"), "Малюнкі жыцця" (апавяданні ўзвышэнскага перыяду), "І вечная табе любоў, мой родны край" (краязнаўчыя матэрыялы).

Друкуецца таксама ліст дачкі А. Мрыя А. Рухінай да пісьменніка С. Грахоўскага, пасляслоўе Я. Лецкі, у якім ён расказвае пра захады па вяртанні з небыцця творчай спадчыны А. Мрыя і Л. Калюгі.

*АДКУЛЬ ШТО ПАЙШЛО*

# ЛАХВА

Калі звярнуцца да вядомай кнігі В.Сямёнава "Россия. Полное географическое описание...", то на старонцы 558 пра Лахву можна прачытаць амаль усё тое, пра што паведамляецца ў "Геаграфічным слоўніку...", але некалькі радкоў характарызуюць жыццё мястэчка канца XIX стагоддзя: ..."За 19 вёрст за Лунінцом знаходзіцца на Брэсцка-Бранскай чыгунцы ст. Лахва, што грузіць да 15 тысяч пудоў хлебных і лясных грузаў. Яна ляжыць на мяжы Пінскага і Мазырскага паветаў пры старажытным мястэчку той жа назвы, размешчана вярстах у 8 ад ракі Прыпяці, каля яе левага прытоку — ракі Смерты, сярод вялікіх гаёў. У Лахве дзве праваслаўныя царквы..." Вось гэты апошні факт — у Лахве дзве царквы —падштурхнуў мяне да думкі знайсці якія-небудзь дакументы, факты пра духоўнае жыццё жыхароў Лахвы, гэта ж таксама неад"емная частка гісторыі народа. Такія дакументы і факты, што адносяцца да канца мінулага стагоддзя, былі знойдзены.

Летам 1873 года па царкоўных прыходах Лунінеччыны здзейсніў інспекцыйную паездку епіскап Мінскі і Бабруйскі Аляксандр. Наведаў ён і Лахву. Захавалася апісанне гэтага падарожжа, зробленае свяшчэннікам І.Праваловічам. У Лахве епіскапа сустрэў хлебам-соллю тысячны натоўп веруючых з харугвамі і запаленымі свечкамі, тут жа было 8 свяшчэннікаў у святочным адзенні з бліжэйшых вёсак. Быў адслужаны малебен.

У апісанні цэркваў і прыходаў Мінскай епархіі, выдадзеным у 1879 годзе, гаворыцца, што "сказанняў асаблівых аб Лахаўскай мясцовасці няма, толькі ў паўднёва-заходнім баку мястэчка ўзвышаюцца тры вялікія курганы, па паданню, гэтыя курганы не што іншае, як магілы ад вайны рускіх са шведамі..." Праз Лахву праходзіла 5-я ваеннакамунікацыйная дарога з Мазыра ў Пінск. У мястэчку было 3 яўрэйскія малітоўныя дамы. Іншыя іншаверцы сваіх малітоўных будынкаў у Лахве не мелі. У архівах князёў Радзівілаў меўся дакумент, які сведчыў, што царква ў Лахве дзейнічала ўжо ў 1597 годзе. Вясковая царква Нараджэння Багародзіцы была пабудавана ў Лахве княгіняй Стафаніяй Радзівіл у 1824 годзе, потым на яе месцы была пабудавана каменная. З капліцы на могільніку ў 1865 годзе на сродкі прыхаджан была ўзведзена царква Аляксандра Неўскага. У лахаўскіх цэрквах было ў той час 7 званоў. Адзін з іх вагой 20 пудоў.

Вядома, што ў Лахве на балотным масіве Кукуцелка размяшчаўся філіял Мінскай балотнай станцыі, створанай у 1911 годзе. Кукуцелку наведвалі, тут працавалі многія, потым вядомыя вучоныя меліяратары і балотазнаўцы.

У кастрычніку 1887 года ў паштовых даведніках Расіі паведамлялася, што адкрыта новае паштовае аддзяленне ў Лахве. У жніўні 1910 года яно было пераўтворана ў паштова-тэлеграфнае.

А цяпер перанясёмся ў 20—30 гады нашага стагоддзя. У зборніку "Паўночна-ўсходнія землі" за 1933 год пра Лахву сказана, што тэрыторыя Лахаўскай воласці складае 645,5 квадратнага кіламетра, на ёй пражывае 21 405 чалавек, у самой Лахве — 3 420. Тут знаходзіцца чыгуначная станцыя, упраўленне воласцю, гарадскі суд (менавіта — гарадскі. — **Л.К.**), паштовае аддзяленне 5-й катэгорыі, касцёл, царква, сінагога. З тэрыторыі воласці вывозяцца будаўнічыя матэрыялы, драўляныя вырабы, воўна, конскі волас, матэрыялы для вытворчасці алею (са справаздачы Палескага ваяводы за 1937 год). У такой жа справаздачы за 1930 год маюцца даныя аб правядзенні конкурсу на лепшую сельскагаспадарчую прадукцыю ў трох паветах ваяводства — Брэсцкім, Пінскім і Лунінецкім. У апошнім першае месца па гадаванню парасят заняла жыхарка Лахвы Ганна Макоўская.

У 1930 годзе ў Лахве была арганізавана метэастанцыя 3-га разраду для назірання за тэмпературай паветра, вільготнасцю, атмасферным ціскам, напрамкам ветру, колькасцю пахмурных і сонечных дзён. Тады ж была ўведзена ў строй назіральная станцыя на рацэ Смерць для вызначэння колькасці ападкаў і ўзроўню вады ў рацэ.

У 1935 годзе ў Лахве было ўжо 3 800 жыхароў, адзін урач (Базыль Пехаў), адзін фельчар, некалькі пастаялых двароў-шынкоў і сталовых-закусачных.

Грунтавая дарога Лунінец—Лахва—Давыд-Гарадок у раёне мястэчка перасякала Прыпяць. Тут была створана паромная пераправа — т.зв. Лахаўскі перавоз. У 1936 годзе было прынята рашэнне аб будаўніцтве ў раёне перавозу невялікай турыстычнай гасцініцы-базы на 5—10 месцаў. Аднак будаўніцтва не было ажыццёўлена.

Многія дакументы 1938—1939 гадоў гавораць пра тое, што ўлады Палескага ваяводства мелі намер прадаставіць Лахве статут горада, але гэтым намерам перашкодзіла вайна.

У наваколлях Лахвы многа цікавых і прыгожых мясцін, маюцца старажытныя курганы і селішчы. Адно з такіх селішчаў было выяўлена ў 1980 годзе за 2 кіламетры на поўдзень ад Лахвы за балотам на правым беразе Смердзі ў сасновым лесе ва ўрочышчы Рыбуня. Пры раскопках былі знойдзены чарапкі ад посуду, кавалкі шлаку ад плаўкі балотнай руды — сляды старажытнай металургіі. Селішча адносіцца да жалезнага веку. На жаль, усе знойдзеныя прадметы знаходзяцца не ў раённым краязнаўчым музеі, а ў Інстытуце гісторыі АН Беларусі. Калі ісці далей на поўдзень бліжэй да Прыпяці, то сустракаецца мноства безыменных азёраў. За ўрочышчам Руская Града непадалёку ад урочышча Лучыца знаходзіцца возера Пясчаніца, на захад ад яго — возера Лебедзь. Яго контуры на карце сапраўды нагадваюць гэтую прыгожую птушку з выцягнутай шыяй. Далей на левым беразе Смердзі ля ўрочышча Любачынская рака размешчана возера Броднае, а яшчэ далей на ўсход, бліжэй да Прыпяці, возера Доўгае. Назва апошняя цалкам адпавядае прыроднай канфігурацыі возера — вузкае і доўгае. Паміж гэтымі азёрамі —урочышча Старая Смердзь. Аднак самае цікавае возера размешчана побач з Лахвай. Балотны масіў, забалочанае возера, возера з сістэмай сажалак і з востравам ( а на ім урочышча Закружжа) —так называлі і называюць у літаратуры гэта цікавае месца ў ландшафце Лахвы з назвай Кукуцелка.

Да возера пракладзены канавы: Рыбгасная, Старая, Сястрэніна, Маёнткавая і Кукуцелка. Недалёка ад Лахаўкі, па той бок чыгункі, знаходзіцца балота Аўдзіцкі Мох і ўрочышча Гладкі Бок. На поўнач ад Лахвы за Кукуцелкай ляжыць вялікае балоцістае ўрочышча Марочна, прарэзанае канавамі. Тут жа на ўзгорках з пясчанай глебай расце сасна, адно з узвышшаў называецца Хмелевы Горы...

Многа ў наваколлях Лахвы прыгожых мясцін, якія чакаюць свайго апісання.

**Леў КОЛАСАЎ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 32.**



**Усё сваё жыццё Неаніла Кушнер з вёскі Забалоцце Брэсцкага раёна была паляводам. І зараз працуе па меры сіл на прысядзібным участку, хоць і жыве адна, застаўшыся ўдавой. У Неанілы Пятроўны — хворыя ногі. І каб неяк прабавіць час і забыцца на боль, успомніла яна пасляваеннае рамяство — узялася вязаць з абрэзкаў тканіны дыванкі для падлогі, рознакаляровыя, цёплыя. Нясуць ёй сяльчане старыя рэчы, а ўзамен атрымліваюць маленькія творы мастацтва.**

**Бывае, майстрыха вяжа з нітак сурвэткі, пакрывальцы, настольнікі. Сабе і іншым на радасць. Тым і жыве. Ужо восьмы дзесятак пайшоў, а ўсё патрэбная людзям.**

**НА ЗДЫМКУ: Неаніла КУШНЕР са сваімі вырабамі.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

*СПОРТ*

## НА ДЗЕНЬ ПАЗНЕЙ

Грозны сапернік дастаўся футбалістам мінскага "Дынама" — "Вердэр" з Брэмена ў розыгрышы кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў. Нядаўна гэта нямецкая каманда выйграла суперкубак сваёй краіны.

Як стала вядома, брэменцы папрасілі перанесці першы афіцыйны матч з беларускай камандай з 15 на 16 верасня. "Дынама" на гэта дало згоду.

## САПЕРНІК ВЯДОМЫ

Гросмайстар з Мінска Барыс Гельфанд выйграў адборачны шахматны турнір на першынство свету, які завяршыўся ў Швейцарыі.

Міжнародная шахматная федэрацыя (ФІДЭ) назвала пары сапернікаў, якія працягнуць барацьбу за званне чэмпіёна. У чарговым туры Барыс Гельфанд сустрэнецца з англічанінам Майклам Адамсам.

## ДЛЯ ПАЧАТКУ — ДОБРА

На Сусветных гульнях у Галандыі на спаборніцтвах па водных лыжах дэбютавала і каманда Беларусі. Прычым, яе выступленне аказалася вельмі ўдалым. Так, мінчанка Алеся Паўлава заваявала залаты медаль у фігурным катанні. Яе зямлячка Юля Грамыка была ў гэтым відзе трэцяй.

Сярод мужчын дзве ўзнагароды на рахунку Алега Дзевятоўскага з Наваполацка. Ён быў мацнейшым на трампліне, а ў фігурным катанні стаў бронзавым прызёрам.

## НОВАЯ ЗОРКА

Усё часцей і часцей на тэнісных кортах свету з'яўляецца спартсменка з Беларусі Таццяна Ігнацьева. Гэтая дзяўчына не без поспеху выступае ў спаборніцтвах. Вось і нядаўна на міжнародным турніры ў ЗША яна абыграла дзвюх саперніц.

На думку спецыялістаў, беларуская спартсменка можа ў хуткім часе стаць новай "зоркай" сярод тэнісістак.

## ТАВАРЫСКАЯ СУСТРЭЧА

Нацыянальная зборная каманда Рэспублікі Беларусь па боксу рыхтуецца да першынства Еўропы. Ужо адабраны кандыдаты на гэтыя спаборніцтвы. Яны і сустрэліся ў таварыскім матчы са зборнай Ізраіля. Беларусы з дзевяці баёў перамаглі ў васьмі.



**Уладзімір ВІТЧАНКА — прафесійны фотамайстар. Глыбокія па зместу фотарэпартажы, якія расказвалі аб эканамічным і культурным жыцці рэспублікі, часта з'яўляліся на старонках "Голасу Радзімы".**



**Адпраўляючыся ў творчыя камандзіроўкі, фотамайстар нярэдка прывозіць адтуль вось і такія гумарыстычныя і забаўляльныя здымкі, падгледжаныя з натуры. Назваў іх проста: "Гора-яздок" і "Утаймаванне ўпартай".**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**
**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.1161. Падпісана да друку 16. 08.1993 г.**